# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ, САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ І САВЕТУ ПРАЦЫ І АБАРОНЫ САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

31 сакавіка 1924 г. № 3. Арт. 61—112.




ЗЬМЕСТ.

I. Пастановы і загады ЦВК Саюзу ССР.



II. Пастановы і загады СНК Саюзу ССР.

# Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

### 61. Аб чэканцы і выпуску у зварот сярэбранай і меднай манеты савецкага узору.

Дзеля разьвіцьця мерапрыёмстваў, накіроўваных да утварэньня сталых грошаў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

ПАДЗЕЛ I.

1. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даручаецца прыступіць да выпуску у зварот сярэбранае манеты савецкага узору вартасьці у дзесяць (10), пятнаццаць (15) і дваццаць (20) капеяк, паўрубель (50) і адзін (1) рубель і меднае манеты савецкага ўзору вартасьцю у адну (1), дзьве (2), тры (3) і пяць (5) капеяк.

2. Сярэбраная і медная манета савецкага узору абавязкова павінна прымацца у ва усе плацяжы на ўсім абшары Саюзу ССР з разьліку: адзін рубель сярэбранае ці меднае манеты дараўніваецца да аднаго рубля золатам дзяржаўнымі казначэйскімі білетамі.

3. Сярэбраная і медная манета савецкага узору абавязкова павінна прымацца у ва ўсе плацяжы у ва ўсіх крэдытных установах і пры разьліках паміж дзяржаўнымі установамі, прадпрыёмствамі і прыватнымі асобамі, сярэбраная манета у 1 рубель і паўрубель (50 к.)—на суму да 25 рублёў у адзін плацеж і іншая ж сярэбраная манета, роўна як і медная манета—на суму да 3 рублёў у адзін плацеж. Скарбніцамі народнага камісарыяту грашовых справаў сярэбраная і медная манета савецкага узору прымаецца без абмяжаваньня сумы.

Увага. Умовы прыёму сярэбранае і меднае манеты дзеля выплаты мытных збораў устанаўліваюцца асобнымі правіламі.

4. Выпуск сярэбранай і меднай манеты у зварот залічваецца у лік нормаў выпуску казначэйскіх білетаў, устаноўленых дэкрэтам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 2, арт. 28) і памяркоўваецца з патрэбаю звароту у грошах адпаведнай вартасьці.

5. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даручаецца павялічыць чэканку сярэбранае і меднае манеты з тым, каб агульная сума адчэканенае сярэбранае і меднае манеты савецкага узору да 1 студзеня 1925 г. складала ня меньш 100 мільёнаў рублёў. У выпадку, калі б колькасьць сярэбранае і меднае манеты, якую б магчыма адчэканіць у бліжэйшыя месяцы, зрабілася малою для поўнага забясьпечаньня патрэбы грашовага звароту у памянёнай манеце, народнаму камісарыяту грашовых спраў Саюзу ССР даецца, з асобнага дазволу Савету Працы і Абароны Саюзу ССР, выпускаць боны вартасьцю ад аднэй да 50 капеяк, якія ходзяць роўна з манетай з тым, каб не пазьней 1 студзеня 1925 г. прыступіць да вынятку выпушчаных часовых бонаў праз бесперашкодны абмен іх па агульнай каштоўнасьці на звонкую манету адпаведнае вартасьці.

6. Сярэбраная і медная манета чэканіцца выключна з мэталу, належачага казне.

7. Усім установам, прадпрыёмствам і асобам рабіць і прымаць плацяжы сярэбранай і меднай манетай царскай чэканкі бязумоўна забараняецца.

ПАДЗЕЛ II.

8. Сярэбраная манета вартасьцю у адзін рубель і адзін паўрубель (50 к.) павінна утрымліваць у сабе дзевяцьсот частак чыстага серабра і сто частак медзі.

9. Манета у адзін рубель павінна утрымліваць чыстага серабра васемнаццаць (18) грамаў (4 зал. 21 долю). Лігатурная вага аднаго рубля павінна раўняцца дваццаці (20) грам. (4 зал. 66 долям).

10. Манета у адзін паўрубель павінна утрымліваць у сабе чыстага серабра дзевяць (9) грамаў (2 зал. 10,5 доляў). Лігатурная вага аднаго паўрубля павінна раўняцца 10 грамам (2 зал. 33 долям).

11. Дыямэтр манеты у адзін рубель вызначаецца у трыццаць тры і пяць дзесятых (33,5) мілімэтра (1 дзюйм 32 пункты). Дыямэтр манеты у адзін паўру-

бель вызначаецца у 26,67 (дваццаць шэсьць і шэсьцьдзесят сем сотых мілімэтра (1 дзюйм 5 пунктаў).

**12.** Пры вырабцы сярэбранае манеты вартасьцю у адзін рубель і паўрубель дапушчаецца наступная цярплівасьць: а) у пробе—дзьве тысячных вышэй і ніжэй пробы, б) у вазе—на тысячу рублёў 0,0015 частак.

**13.** Разьменная сярэбраная манета вартасьцю у 20, 15 і 10 капеяк павінна утрымліваць у сабе пяцьсот частак чыстага серабра і пяцьсот частак медзі.

**14.** Разьменная сярэбраная манета павінна утрымліваць чыстага серабра:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 20 кап. | 1,8 гр. | (40,5 | дол.) |
| 15 „ | 1,35 „ | (30,375 | „ ) |
| 10 „ | 0,9 „ | (20,25 | „ ) |

**15.** Лігатурная вага разьменнае сярэбранае манеты павінна раўняцца:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 20 кап. | 3,6 гр. | (81 | дол.) |
| 15 „ | 2,7 „ | (60,75 | „ ) |
| 10 „ | 1,8 „ | (40,5 | „ ) |

**16.** Дыямэтр разьменае сярэбранае манеты вызначаецца:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 20 кап. | у 21,84 мм. | (86 | пункт.) |
| 15 „ | „ 19,56 „ | (77 | „ ) |
| 10 „ | „ 17,27 „ | (68 | „ ) |

**17.** Пры вырабцы разьменнай сярэбранай манеты дапушчаецца наступная цярплівасьць: а) у пробе—пяць тысячных вышэй і ніжэй пробы і б) у вазе—на тысячу рублёў 0,0015 частак.

**18.** З аднаго пуду медзі чэканіцца 50 рублёў меднае манеты.

**19.** Дыямэтр меднае манеты вартасьцю у 5 (пяць) капеяк вызначаецца у трыццаць два мілімэтра (1 дзюйм 26 пункт) і вартасьцю у тры капейкі—у 27,7 мілімэтра (1 дзюйм 9 пункт) і вартасьцю у дзьве капейкі—у 24 мілімэтра (94 пункты) вартасьцю у 1 кап—у 21,3 мілімэтра (84 пункты).

**20.** Знадворны выгляд сярэбранае і медная манеты кожнае вартасьці устанаўліваецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР і агалашаецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР з падрабязным апісаньнем дзеля ўсеагульнага ведама.

**21.** Паступіўшая у скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР пацёртая сярэбраная і медная манета ізноў у зварот ня выпушчаецца.

Сапсутая і непазнаваемая па штэмпэлю манета ня прымаецца зусім у скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР і не абавязкова да прыёму у плацяжы.

**22.** У выпадку сумненьня аўтэнтычнасьці падаваемай у плацяжы манеты, скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР павінны затрымовываць яе і адсылаць на манэтны двор для досьледу.

Увага. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даецца права ускладаць гэткі абавязак так сама на дзяржаўны банк і іншыя крэдытныя установы.

**23.** Асобы, якія робяць фальшывыя сярэбраныя і медныя манеты, караюцца водлуг адпаведных артыкулаў угалоўных кадэксаў саюзных рэспублік.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

22 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 46 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 24 лютага 1924 г.

---

## 62. Аб ваенна аўга-транспартнай павіннасьці.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** У мэтах здаволеньня патрэбы чырвонае арміі і флёту у ваенны час аўтамабілямі, мотоцыкламі і вэлосіпэдамі, устанаўліваецца ваенная аўта-транспартная павіннасьць, дзеля якой на ўсе дзяржаўныя і прыватныя прадпрыёмствы і установы, а так сама на прыватных асобаў, якія ўладаюць аўтамабілямі-легкавымі, грузавымі і адумысловага назначэньня, мотоцыкламі з каляскамі і без іх, а так сама вэлосыпэдамі, ускладаецца абавязак дастаўкі іх у рабоча-сялянскую чырвоную армію і флёт, пры абвесцы мабілізацыі узброенных сілаў Саюзу ССР.

Увага. Грамадзяне замежных дзяржаваў, а так сама замежныя установы і прадпрыёмствы знаходзячыяся у межах Саюзу ССР, у адносінах выкананьня ваеннай аўта-транспартнай павіннасьці, прыраўніваюцца да усіх грамадзянаў, установаў і прадпрыёмстваў Саюзу ССР, за выключэньнем выпадкаў, прадгледжаных пунктамі „б“, „в“ і „г“ арт. 3 гэтага дэкрэту.

**2.** Прадгледжаны арт. 1 гэтага дэкрэту аўта-транспарт падлягае вынятку, з абвесткаю мабілізацыі узброенных сілаў, у колькасьці, прадгледжанай плянам мабілізацыі аўта-транспарту (арт. 4 гэтага дэкрэту).

Увага. У час вайны для папаўненьня страты і укамплектаваньня нанова фарміруемых частак аўтатранспартам, аўта-транспарт можа спаганяцца у колькасьці, перевышаючай колькасьць, прадгледжаную мабілізацыйным плянам, на падставе асобных пастановаў Савету Працы і Абароны.

**3.** Ад дастаўкі па ваеннай аўта-транспартнай павіннасьці звальняецца аўта-транспарт.

а) Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу ССР, а так сама цэнтральных выканаўчых камітэтаў і саветаў народных камісараў саюзных рэспублік у колькасьці, устанаўліваемай гэтымі установамі;

б) замежных дыплёматычных прадстаўнікоў, а так сама і іншых асобаў, карыстаючыхся правам экстэрытырыяльнасьці, паколькі аўта-транспарт служыць для іх асабістага карыстаньня,

в) замежных консулаў, калі гэта продгледжана адпаведнымі консульскімі конвэнцыямі;

г) іншых замежных грамадзян, у тым выпадку, калі гэта прадгледжана адпаведнымі паміжнароднымі дагаворамі:

д) дзяржаўных пажарных камандаў, бальніцаў, курортаў, электрычных станцыяў, хлебапекарняў, бойняў, вадаправодаў і газовых заводаў;

е) органаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў, пакольку аўта-транспорт занят выключна перавозкаю почты, рэмонтам тэлеграфных і тэлефонных лініяў, а так сама абслугоўваньнем радыё станцыяў;

ж) знаходзячыхся за ведамам народных камісарыятаў аховы здароўя саюзных рэспублік аўта-санітарных атрадаў, якія лічуцца актыўным рэзэрвам ваеннага ведамству;

з) органаў Аб'яднанага Джяржаўнага палітычнага упраўленьня.

Увага. Колькасьць падлягаючых звальненьню ад павіннасьці машын, абслугоўваючых непасрэдныя патрэбы паказаных у п. п. „д“, „е“, „ж“ і „з“ установаў і прадпрыёмстваў, назначаецца у мірны час цэнтральнай камісіяй па мабілізацыі аўта-транспарту (арт. 5).

**4.** Падгатаўленьне да выкананьня ваеннай аўта-транспартнай павіннасьці установамі, прадпрыёмствамі і асобамі, памянёнымі у арт. 1 гэтага дэкрэту, ускладаецца у мірны час на народны камісарыят па ваенным і марскім справам, які, на падставе дадзеных аб мабілізацыйнай патрэбе ваеннага і марскога ведамстваў у аўта-транспарце і ведаў аб колькасьці транспарту у Саюзе ССР, распрацоўвае план мабілізацыі аўта-транспарту і падае яго на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны.

Увага. Пры распрацоўцы пляну мабілізацыі павінны быць, водлуг магчымасьці, у памеркаваньні з колькасьцю аўта-транспарту у Саюзе ССР, прадгледжаны патрэбы прамысловасьці, падлягаючай мабілізацыі на патрэбы вайны.

**5.** Пры народным камісарыяце па ваенным і марскім справам знаходзіцца цэнтральная камісія па мабілізацыі аўта-транспарта у складзе: двух прадстаўнікоў народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам аднаго прадстаўніка вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР і аднаго прадстаўніка Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня. Старшыня з ліку паказаных сяброў назначаецца Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР.

На камісію ускладаецца: а) вызначэньне велічыні здавальненьня мабілізацыйных патрэбаў ваеннага і марскога ведамстваў у аўте-транспарце за лік колькасьці яго у Саюзе ССР; б) вырашэньне пытаньняў аб часовым ці сталым звальненьні аўта-транспарту ад дастаўкі па мабілізацыі; в) агульнае кіраваньне дзейнасьцю мясцовых камісіяў па мабілізацыі аўта-транспарту; г) распрацоўка пытаньняў па правядзеньню вопытных мабілізацыяў.

Увага. Пры абгаворваньні пытаньняў, прадгледжаных у п. „б“ абавязкова прысутнічаюць у камісіі прадстаўнікі зацікаўленых ведамстваў.

**6.** Усе пастановы цэнтральнае камісіі, заснованыя на прынятым Саветам Працы і Абароны мабілізацыйным плане, па зацьверджаньні гэтых пастановаў Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР, абявязковы дзеля усіх ведамстваў.

Увага. Абжальбаваньне ведамствамі пастановаў цэнтральнай камісіі, зацьверджаных Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР, у Савет Працы і Абароны не затрымоўвае зьдзейсненьня гэтых пастановаў.

**7.** У кожнай акрузе, а гэтак сама фронце ці асобнай арміі знаходзяцца камісіі па мабілізацыі аўта-транспарту у складзе: двух прадстаўнікоў ваеннай акругі, фронту ці асобнай арміі і па аднаму прадстаўніку вышэйшага савету народнае гаспадаркі і дзяржаўных палітычных упраўленьняў належных рэспублік. Старшыня назначаецца з складу камісіі Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР.

На паказаныя камісіі ускладаецца:

а) выкананьне у межах акругі, фронту або асобнай арміі заданьняў цэнтральнай камісіі;

б) разгляданьне і канчатковае вырашэньне у межах, устанаўліваемых цэнтральнай камісіяй, пытаньнўя аб звальненьні ад дастаўкі аўта-транспарту па мабілізацыі, і

в) у час мабілізацыі—разьвязаньне жальбаў на дзеі прыемных камісіяў.

**8.** Для забясьпечаньня сваечасовага і плянамернага выкананьня ваеннай аўта-транспартнай павіннасьці, увесь аўта-транспарт Саюзу ССР знаходзіцца на учоце народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам, дзеля чаго Рэвалюцыйны Ваенны Савет Саюзу ССР выдае адпаведныя правілы.

**9.** Для прыёму аўта-транспарту на здатачных пунктах з абвесткаю мабілізацыі утвараюцца мясцовыя прыёмныя камісіі у наступным складзе: старшыня— прадстаўнік ваеннага ведамству і па аднаму прадстаўніку ад мясцовага органу народнага камісарыяту грашовых спраў і мясцовага губэрскага выканаўчага камітэту (ці адпавядаючага яму органу).

Падгатоўчая праца, неабходная для забясьпечаньня пасьпеху дзеяў мясцовых прыёмных камісіяў, ускладаецца на мясцовыя ваенныя камісарыяты, дзеючыя на падставе асобных інструкцыяў народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам.

**10.** З абвесткаю мабілізацыі узброенных сілаў, падлягаючы дастаўцы аўта-транспарт, з належнасьцямі і запаснымі часткамі, якія маюцца да яго (па маркам), дастаўляецца на здатачныя пункты сродкамі уладароў у тэрмін, паказаны у адпаведным аб тым загадзе.

**11.** Установы, прадпрыёмствы і асобы, не даставіўшыя па уважлівым прычынам аўта-транспарту сваечасова у паказаныя пункты, дастаўляюць яго, пасьля спыненьня гэтых прычынаў, зараз жа у бліжэйшае павятовае або губэрскае (краіннае) места, дзе і атрымовываюць ад адпаведных ваенных камісарыятаў паказаньні аб далейшым яго кірунку.

Аўта-транспарт, не дастаўлены у тэрмін на здатачныя пункты бяз уважлівых прычынаў, дастаўляецца туды з прынукі загадам міліцыі за кошт належных установаў, прадпрыёмстваў і асобаў.

**12.** Аўта транспарт (з прыналежнасьцямі і запаснымі часткамі) прымаецца на здатачных пунктах у колькасьці, прадгледжанай мабілізацыйным плянам (арт. 4 гэтага дэкрэту) з ліку найболш прыгоднага дзеля службы у рабоча-сялянскай чырвонай арміі і флёце аўта-транспарту; рэшта ж—варочаецца уладарам, з выдачаю апошнім адпаведных пасьведчаньняў.

**13.** Умовы прыгаднасьці дзеля службы у рабоча-

сялянскай чырвонай арміі і флёце аўта-транспарту, а так сама парадак прыёму і аплаты, вызначэньне велічыні узнагароды за прыняты па мабілізацыі аўта-транспарт з прыналежнасьцямі, прыборамі і запаснымі часткамі ці бяз іх, вызначаюцца інструкцыяй (арт. 19).

**14.** Не пазьней 3 сутак з дня прыёму аўта-транспарту па мабілізацыі, даставіўшым яго установам, прадпрыёмствам і асобам выдаюцца квітанцыі, па якім робіцца выплата грошаў мясцовымі губэрскімі і паветовымі (ці адпавядаючымі ім) аддзеламі грашовых справаў, бліжэйшымі да месца здачы аўта-транспарту, не пазьней месячнага тэрміну з дня прыёму машын.

**15.** Усе выдаткі, вызваныя прыёмкаю аўта-транспарту па мабілізацыі, адносяцца на надзвычайны каштарыс народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам.

**16.** На час выкананьня ваеннай аўта-транспартнай павіннасьці усякае перакідываньне аўтамабіляў, мотоцыклаў і вэлосыпэдаў, іх прыналежнасьцяў і запасных частак без дазволу належных органаў народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам забараняецца.

Увага. Аўтамабілі, мотоцыклы і вэлосыпэды, знаходзячыяся у момант мабілізацыі ня пры пункту сваёй прыпіскі (учоту), павінны быць дастаўлены у бліжэйшыя па месцу знаходжаньня машыны прыёмныя камісіі.

**17.** Жальбы на дзеі прыемных камісіяў падаюцца акружным, фронтавым і армейскім камісіям па мабілізацыі аўта-транспарту, а на дзеі апошніх—цэнтральнай камісіі па мабілізацыі аўта-транспарту у працягу двух тыдняў з дня загаду, які прызнаецца неправідловым. Падача жальбаў не затрымаўвае зьдзейсьненьня абжальбаваных пастановаў.

**18.** Нарушэньне правілаў, устаноўленных для учоту аўта-транспарту, непадача яго на здататны пункт бяз уважлівых прычынаў і ухіленьне ад здачы аўта-транспарту, прыналежнасьцяў і запасных частак—караецца угалоўным парадкам.

**19.** Народнаму камісарыяту па ваенным і марскім справам, водлуг згоды з вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР, Аб'яднаным Дзяржаўным Палітычным Упраўленьнем і народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, даручаецца распрацаваць і падаць на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны інструкцыю па ужытку гэтага дэкрэту.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **А. Цюрупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

22 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 47 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 26 лютага 1924 г.

## 63. Аб амністыі сялянкам і працоўніцам у дзень 8 сакавіка.

Упэўніўшыся на падставе вопыту мінулага году, што звольненыя, па амністыі, з вастрогу, выпадкова ці па патрэбе зрабіўшыя злачынствы працоўніцы і сялянкі варочаюцца да сумленнага працоўнага жыцьця, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе** і ў гэтым годзе да дню сьвяткаваньня інтэрнацыянальнага жаночага свята — дня працоўніцы 8 сакавіка:

**1.** Умоўна зволіць з-пад стражы тых сялянак і працоўніц, якія адбыўшы да дню жаночага сьвята палову і больш тэрміну кары, не надаюць небясьпечнаецьці у сэнсе магчымасьці зрабіць новыя злачынствы.

**2.** Даць камісіям па разьмяркаваньню права падымаць хадатайніцтвы аб умоўна — датэрміновым звальненьні пасаджаных жанчын, а адпаведным установам здавальняць іх і да адбыцьця імі да 8 сакавіка паловы тэрміну пакараньня.

**3.** Абавязаць судзебных і адміністратыўных органаў пры вынясеньні пастановы аб тым ці іншым пакараньні жанчын, зрабіўшых злачынства да 8 сакавіка 1924 г., ставіць пытаньне аб скарыстаньні для іх гэтага акту.

**4.** Даручыць прэзыдыумам цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік ускласьці на адпаведныя органы рэспублік выпрацоўку дзеля выкананьня гэтае пастановы, падрабязнае інструкцыі і мець нагляданьне за дакладным і няўхільным ажыцьцяўленьнем яе:

**5.** Гэту пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

22 лютагу 1924 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікована у № 47 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 26 лютага 1924 г.

## 64. Аб з'їначаньні ставак асобнага збору з вывожаемых закардон хлеба-фуражных прадуктаў.

Дзеля з'інaчаньня пастановаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. аб устанаўленьні асобнага збору з вывожваемых закардон хлеба-фуражных прадуктаў (Весьнік ЦВК СНК і СПА 1923 г., № 3, арт. 156) і 10 кастрычніка 1923 г. аб звальненьні экспортыруемых закардон хлебных прадуктаў ад некаторых збораў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 7, арт. 198) Цэнтральны Выканавчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Для пакрыцьця выдаткаў, зьвязаных з прывядзеньнем у належнае становішча падвозных шляхаў да партоў, праз якія экспортыруюцца хлеба-фуражныя прадукты, з вывожваемых з межаў Саюзу ССР закардон хлебна-фуражных прадуктаў спаганяецца асобны збор у наступнай велічыні:

а) з кукурузы, аўса, ячменя і вотрубяў—6 кап. зол. з 100 кілёграмаў брутто;

б) з ўсіх іншых хлеба-фуражных прадуктаў—15 коп. зол. з 100 кілёграмаў брутто.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

22 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 46 „Известій" ЦВК Саюзу ССР ад 24 лютага 1924 г.

**65.** **Аб устанаўленьні велічыні дзяржаўнага паляўнічага збору у чырвоным вылічэньні.**

Дзеля адмены пастановы УЦВК і СНК ад 27 чэрвеня 1923 г. аб з'іначаньні ставак дзяржаўнага паляўнічага збору (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 62, арт. 601) і дзеля з'іначаньня арт. 1 пастановы УЦВК і СНК ад 1 сакавіка 1923 г. аб паляўнічым збору (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 17, арт. 217) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Дзяржаўны паляўнічы збор устанаўліваецца у велічыні аднаго рубля пяцьдзесят кап. (1 р. 50 к.) у чырвоным вылічэньні за календарные паўгодзьдзе.

**2.** Гэтая пастанова зьдзейсьневаецца на ўсім абшары Саюзу ССР з 15 лютага 1924 г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енук'дзе.**

28 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 50 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 29 лютага 1924 г.

---

**66.** **Аб. устанаўленьні ставак акцызу у чырвоным вылічэньні на сьпірт і гарэлачныя вырабы, якія вырабляюцца ў межах Далёка-Усходняй краіны.**

Для вынятку з пастановы УЦВК і СНК ад 19 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні велічыні акцызных ставак на рэчы, абкладваемыя акцызам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 33, арт. 362) і пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 24 жніўня 1923 году аб выказваньні цьвярдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 9, арт. 285 і № 13, арт. 365), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Устанавіць стаўкі акцызу на сьпірт і гарэлачные вырабы, якія вырабляюцца у межах Далёка-Усходняй краіны, у наступнай велічыні (у чырвоным вылічэньні):

а) на сьпірт сыры і рэктыфікаваны, за выключэньнем выпадкаў, прадгледжаных п.п. „б" і „в" гэтага артыкулу—пятнаццаць капеяк з градусу;

б) на сьпірт, адпушчаемы дзеля вытворчасьці лаку і політуры на лакава-політурных заводах—пяць капеяк з градусу;

в) на сьпірт, адпушчаемы для вырабкі воцту—чатыры капейкі з градусу;

г) на гарэлачныя вырабы—апрача аснаўнага капіталу са сьпірту—дадаткова 2 р. 50 кап. з вядра ці дваццаць капеяк з літру.

**2.** Зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цюрупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 52 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 сакавіка 1924 г.

---

**67.** **Аб дачы сябрам саветаў—працоўніцам і сялянкам магчымасьці дзеля выкананьня практычных заданьняў па бягучай дзеяльнасьці сельсаветаў і волвыканкамаў.**

*Циркулярна.*

Цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік.

Доводы аб выбарах у саветы за 1923 г. паказываюць, што удзел жанчын у савецкім будаўніцтве значна павялічыўся: так, па Украіне лік выбраных у сябры саветаў працаўніц і сялянак складае 12000, па Сібіры—291, па Варонежской губэрні 427, па Курскай губэрні—230 і с. д.

Гэткае павялічэньне колькасьці жанчын-працоўніц і сялянак у савецкім будаўніцтве зьяўляецца пачаткам ажыцьцяўленьня аднэй з задачаў, якую сабе ставіла савецкая ўлада пры умацненьні нізавога савецкага апарату і пры падняцьці сельскае гаспадаркі.

Гэтыя першыя крокі больш шырокага прыцягненьня жанчын-працоўніц і сялянак ў працу савецкай ўлады павінны быць зараз жа замацаваны праздачу ім па магчымасьці больш актыўнага удзелу у непасрэднай, сыстэматычнай, будзеннай працы мясцовых органаў ўлады.

Дзеля гэтага Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР лічыць неабходным прыняць тэрміновыя меры каб даць сябрам саветаў працоўніцам і сялянкам магчымасьць выкананьня розных практычных заданьняў па бягучай дзеяльнасьці сельскіх саветаў і валасных выканаўчых камітэтаў і прапануе цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік даць адпаведння паказаньні краінным і губэрскім выканаўчым камітэтам, паставіўшы пад іх кіраваньне і адпаведнасьць правядзеньне паказаных у гэтым цыркуляру заданьняў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**68.** **Аб адзначаньні дню 8 сакавіка 1924 г. мерапрыемствамі у адносінах да працоўніц і сялянак.**

*Цыркулярна.*

Цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР прапануе цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік адзначыць дзень 8 сакавіка 1924 г.—году сьмерці любімага правадыра—шырокімі мерапрыёмствамі па ажыцьцяўленьню лёзунгу У. І. Леніна: Справа савецкай ўлады будзе даведзена да канца, кам і у ёй прымуць удзел ня соткі, а мільёны і мільёны працоўніц і сялянак".

Дзеля ажыцьцяўленьня гэтага лёзунгу неабходна зьдзейсьніць рад практычных мерапрыёмстваў па паляпшэньню быту працоўніц і сялянак, па падняцьцю іх культурнага роўня, па паляпшэньню жаночай працы

у вытворчасьці, па прыцягненьню іх у практычную савецкую працу і па дапамозе сялянкам—бядначкам.

У мэтах змаганьня за паляпшэньне быту працоўніц і сялянак неабходна, водлуг магчымасьці, прыурочыць да 8 сакавіка адчыненьне або закладу новых установаў аб ахове матак і малых, консультацыяў, памешканьняў для матак, летніх ясляў і г. п. установаў, паляпша ючых становішча працаўніц і сялянак.

Асабліва неабходна правясьці больш рашучае і няўхільнае змаганьне дзеля выжываньня на справе бытавых забабонаў якія трымаюць ў няволі ўсходнюю жанчыну.

У адносінах падняцьця культурнага роўня працоўніц і сялянак неабходна прыняць меры па спыненьню перашкодаў, якія б затрымовывалі паступленьне працоўніц і сялянак на рабочыя факультэты і іншыя школы: народныя камісарыяты асьветы павінны прыняць актыўны удзел па правядзеньню вызначанае працы па здумысловай падгатоўцы працоўніц і сялянак да будучага прыёму на рабочыя факультэты, профэсыянальныя школы і фабрычна-заводзкія училішчы,—устанавліваючы забраніраваньне вызначанага проценту месцаў за сялянкамі, працоўніцамі і падросткамі у адпаведных школах і прымаючы усе меры каб іх запоўніць. Апрача гэтага, народныя камісарыяты асьветы павінны паявлічыць працу каб прыцягнуць жанчын у рабочыя клюбы і хаты—чытальні праз утварэньне размоваў і дакладаў, якія б цікавілі працоўніц і сялянак, а так сама каб утварыць клюбы для культурна—асьветнае працы сярод жанчын Усходу.

У мэтах усямернага палапшэньня становішча жаночай працы у вытворчасьці і дапамогі правідловым адносінам шырокіх колаў да пытаньняў, зьвязаных з становішчам жаночай працы у вытворчасьці, народнаму камісарыяту працы Саюзу ССР даручаецца арганізаваць камісію з адпаведных таварышоў па выўчэньню жаночай працы у вытворчасьці.

Для змаганьня з жаночым безпрацаўем, па прыкладу мінулых гадоў, да дню 8 сакавіка неабходна прыурочыць адчыненьне ці закладку установаў, якія зьмягчалі б становішча беспрацоўных жанчын.

У адносінах працы жанчын-сялянак трэба зараз жа приступіць да актыўнага выяўленьня найбольш дзеяльных і ініцыатыўных сялянак, прыцягваючы іх да кокоопэратыўнай і агракультурнай працы, і прыняць энэргічныя меры да аграпрапаганды паміж арганізаванымі сялянкамі — дэлегаткамі, скарыстоўваючы для гэтага сілы мясцовага аграпэрсаналу.

У дапамогу маламоцнай сялянцы і жонцы чырвонаармейца, якія часта зьяўляюцца гаспадарамі у сваёй гаспадарцы і зьвязаных сям'ёй, належыць звярнуць самую сур'ёзную увагу на практычную дапамогу гаспадаркам адзінотных сялянак, а гэтак сама жонак і ўдоваў чырвонаармейцаў. У дзень жа 8 сакавіка трэба на агульных сходах сельскага насельніцтва ставіць пытаньне аб працы камітэтаў ўзаемадапамогі аб углубленьні пачатай працы аб прыцягненьні жанчын-сялянак у гаспадарчае і культурнае будаўніцтва нашае рэспублікі і па раскрэпашчэньню сялянкі.

Патрэбна так сама на гэтых агульных сходах сельскага насельніцтва прымаць пастановы аб дапамозе да атрыманьня насеннай ссуды сялянкамі-бядначкамі, аб своечасовым засеве іх надзелаў сіламі камітэтаў і г. д.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, ставячы перад цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік выкананьне гэтых заданьняў да дню 8 сакавіка, прапануе ім даць адпаведныя паказаньні народным камісарыятам асьветы, краінным і губэрскім выканаўчым камітэтам.

Савецкая рэспубліка, з словаў тав. Леніна зьяўляецца адзіннаю дзяржаваю у міры, якая „зьмяла бяз вынятку заканадаўчыя сьляды няроўнасьці жанчын і забясьпечыла ёй поўную роўнасьць па закону“.

Канчатковае, фактычная ажыцьцяўленьне гэтага лозунгу складае чарговую задачу дня савецкай улады.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

## 69. Аб прэміраваньні сельска-гаспадарчых колектываў, меліорацыйных і іншых таварystваў, якія ужываюць электрычную энэргію для працы, зьвязанае з сельскай гаспадаркай, кустарнымі промысламі і дзеля іншых культурных мэтаў.

Каб пад'ахвоціць ужываньне электрычнае энергіі для культурных і прамысловых патрэбаў у сельскай гаспадарцы Цэнтральных Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Прадгледжанае дэкрэтамі цэнтральных выканаўчых камітэтаў і саветаў народных камісараў саюзных рэспублік аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку права саветаў народных камісараў аўтаномных рэспублік, краінных выканаўчых камітэтаў і губэрскіх выканаўчых камітэтаў і губэрскіх выканаўчых камітэтаў прэміраваньня за палепшаныя прыёмы гаспадараньня як асобных колектываў, гэтак і гаспадарак цэлых валасьцяў, раёнаў і паветаў у форме скідкі вызначанага проценту з падатку—пашырыць і на прэміраваньне сельска-гаспадарчых колектываў, меліорацыйных і іншых таварystваў, якія ужываюць для працы, зьвязанай з сельскай гаспадаркай, кустарнымі промысламі і для іншых культурных мэтаў электрычную энэргію.

**2.** Даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, водлуг згоды з вышэйшым саветам народнай гаспадаркі Саюзу ССР і народнымі камісарыятамі земляробства саюзных рэспублік, выдаць інструкцыю па ужываньню гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агал шана у № 52 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 2 сакавіка 1924 г.

## 70. Аб аб'яднаньні у складзе Беларускае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі ўсіх тэрыторыяў Савецкага Саюзу з большасьцю беларускага насельніцтва.

„Толькі ў стане саветаў і толькі пры ўмовах дыктатуры пролетарыяту, якая згуртавала навокала сябе большасьць насельніцтва, выявілася мажлівым зьнішчыць ушчэнт нацыянальны уціск, утварыць обставіны

ўзаемнага даверра і залажыць асновы братэрскага супрацоўніцтва народаў.

Гэтак гаворыць Констытуцыя Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік—Констытуцыя Самахотна аб'яднаўшыхся роўнапраўных народаў.

Патрымліваць усімі сіламі і усімі мерамі гэтыя абставіны ўзаемнага даверра паміж увашоўшымі у склад Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік народамі складае аснаўную задачу Саюзу.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік прызнае, што згода, якая адбылася паміж цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі Расійскай Соцыялістычнаяй Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі і Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікай, дзякуючы якой у складзе Беларусскай рэспублікі аб'яднаюцца ўсе тэрыторыі Савецкага Саюзу з большасьцю беларускага насельніцтва, зьяўляецца новым і яскравым довадам фактычнага ажыцьцяўленьня ўсе больш шчыльных дружных і братэрскіх адносінаў народаў, населяючых Саюз.

Беларусь, у дні царызма, закінутая старонка,—арэна змаганьня велікарасейскай, польскай, літоўскай, нямецкай і інш. буржуазіі, уступіўшы на шлях звальненьня з утварэньнем савецкае ўлады, у першыя ж дні свайго звальненьня, у маніфэсьце першага рабоча-сялянскага ўраду ад 1 студзеня 1919 году рашуча адкінула спробы буржуазных і дробнабуржуазных элемэнтаў будаваць свае разьвіцьцё на падставе згоды з капіталістычным сьветам. Згода ж рабоча-сялянскіх ўрадаў Расійскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі і Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі дае пэўную магчымасьць Беларусі для далейшага разьвіцьця на падставе шырокага эканамічнага дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва.

Дзеля гэтага Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР з поўным здавальненьнем устанаўляе дасягнёную, адпаведна з арт. 6 Констытуцыі Саюзу ССР, згоду паміж Расейскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікай і Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікай, якая зьяўляецца гістарычным момантам для жыцьця Савецкай Беларусі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ня сумневаецца, што гэты вялізны акт ўзаемнага даверра народаў, населяючых Саюз, паважаньня да самавызначэньня кожнага з іх, паслужыць клічам для ўсіх працоўных Беларусі дружней згуртавацца пад сьцягам Савецкай Беларусі, працаваць над сваім эканамічным і культурным адраджэньнем і разьвіцьцём, над умацаваньнем і павялічэньнем Савецкай Беларусі і ўсяго Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Адзін фронт Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік перад тварам капіталістычнага.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік кліча рабочых і сялян Беларусі, разам з рабочымі і сялянамі Саюзу, цьвёрда і рашуча падтрымліваць братэрскі саюз аб'яднаўшыхся пад сьцягам саветаў народаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 58 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

**71. Аб дачы галоўнай палаце мерак і вагі і палатам мерак і вагі саюзных рэспублік права мець адумысловыя сродкі.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Даць галоўнай палаце мераў і вагі і палатам мераў і вагі саюзных савецкіх соцыялістычных рэспублік права мець адумысловыя срокі, адтрымоўваемыя праз дастаўаньне:

1) ад спагнаньне платы за прысутнасьць на арганізуемых палатай лекцыях, выстаўках і глядзелішчах, за карыстаньне кнігамі, пасобіямі, калекцыямі; 2) ад продажы кніжных дублетаў з бібліатэкі і іншае непатрэбнае і старое маемасьці, а так сама ад прадажы права на выданьне і самых выданьняў; 3) ад лябораторыяў, майстэрняў, кабінэтаў, вытворчых прадпрыёмстваў, арганізаваных палатай, ад экспл'ёатацыі знаходзячыхся у яе веданьні зямельных вучасткаў, будоваў і іншае маемасьці; 4) з пасобіяў ад дзяржаўных установаў і грамадзянскіх арганізацыяў і з ахвяраваньняў прыватных асобаў і іншых выпадковых паступленьняў.

2. Парадак адтрыманьня, зьберагаиньня і выдаткаваньня адумысловых сродкаў, а роўна справаздаўнасьці па ім, вызначаюцца асобнай інструкцыяй, выдаваемай саветамі народных камісараў саюзных рэспублік.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 54 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

**72. Аб зьмяшчэньні рэзэр'ўных і запасных капіталаў дзяржаўных установаў і прадпрыёмстваў у дзяржаўныя і гарантыраваныя ўрадам процантныя паперы.**

У мэтах застрахаваньня запасных і рэзэр'ўных капіталаў дзяржаўных прадпрыёмстваў ад абязцэненьня і у мэтах зьберагаиньня іх у гэткім выглядзе, пры якім была б забясьпечана магчымасьць хуткай іх рэалізацыі, Цэнтральны Выканавчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дзяржаўныя установы і дзяржаўныя прадпрыёмствы, якія маюць, згодна сваім статутам ці палажэньням, рэзэр'ўныя і запасныя капіталы, павінны ня меньш шасьцідзесяцёх процантаў гэткіх капіталаў класьці у дзяржаўныя і гарантыраваныя ўрадам процантныя паперы, сьпіс якіх агалашаецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР.

Увага. Гэта пастанова не пашыраецца на зьмешаныя акцыянэрныя таварыствы, у якіх фактычна прымае удзел замежны капітал.

2. Народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР агалашае сьпіс процантных папераў, памянёных

у папярэднім артыкулу, не радзей, чым праз кожных 6 месяцаў.

3. Адчужджэньне, залог і іншыя выгляды загадваньня процантнымі паперамі, у якія пакладзены, згодна арт. 1 гэтае пастановы, запасныя і рэзэр'ўныя капіталы дзяржаўных установаў і дзяржаўных прадпрыёмстваў, дапушчаюцца няйначы, як у выпадках і ў парадку, устаноўленых законам і інструкцыям Савету Працы і Абароны (арт. 5 гэтае пастановы).

4. Калі у належным, законам устаноўленым парадку, будзе прызнана неабходным растраціць запасны або рэзэр'ўны капітал дзяржаўнае установы і дзяржаўнага прадпрыёмства велічынёю, якая зачэплівае тую частку яго, што зьмешчана у процэнтных паперах, згодна арт. 1, дык адпаведная частка гэтых папераў зараз жа аплачваецца па назоўнай каштоўнасьці народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР у парадку, вызначаным інструкцыяй Савету Працы і Абароны (арт. 5 гэтае пастановы).

5. Інструкцыя аб парадку ажыцьцяўленьня гэтае пастановы выпрацоўваецца водлуг згоды народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР і камісіі па унутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны і зацьверджаецца Саветам Працы і Абароны.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 58 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

## 73. Аб абкладаньні акцызам паперы на папяросы і для курэньня.

Для з'інчаньня пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 13 чэрвеня 1923 г. аб з'іначаньні укладу акцызнага абкладаньня паперы на папяросы (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 55, арт. 537) і п. „б“ арт. 4 пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 24 жніўня 1923 г. аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 9, арт. 285, і № 13, арт. 365) Цэнтральны Выканаўчы Камітэў і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць абкладаньне акцызам вырабляемай на тэрыторыі Саюзу ССР і прыважваемай з-за кардону паперы на папяросы і для курэньня, у залежнасьці ад яе гусьціні, у наступнай велічыні (у чырвоным вылічэньні):

а) першы сорт—вагою ад 13 да 18 грамаў у 1 кв. мэтру паперы—2 кап. з аднога квадратовага мэтру;

б) другі сорт—вагою звыш 18 і да 24 грамаў у 1 кв. мэтру — $^1/_2$ кап. з аднага квадратовага мэуру.

2. Папера на папяросы і для курэньня, выпушчаемая з папяровых фабрык на табачныя і гільзавыя фабрыкі, абкладаньню акцызам не падлягаюць.

3. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даручаецца выдаць, водлуг згоды з вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР, інструкцыю па ужываньню гэтае пастановы.

4. Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы устанаўліваецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР і агалашаецца у „Известиях“ ЦВК Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 58 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

## 74. Аб велічыні акцызных ставак на пражу з караўей шэрсьці.

У дадатак да арт 8 дадатку 1 да пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчака Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 28 лютага 1923 г. аб акцызе на вырабы тэкстыльнай прамысловасьці (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 17, арт. 214) і арт. 22 пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 24 ад 24 жніўня 1923 г. аб выказваньні цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 9, арт. 285, і № 13, арт. 365), Цэнтральны Выканаучы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Устанавіць наступныя стаўкі акцызу у чырвоным вылічэньні на вырабляемую з караўей шэрсьці пражу:

а) утрымліваючую у адным фунце ня звыш 2 маткоўдзьве і пяць дзесятых капейкі з фунту ці шэсьць і адную дзесятую капейкі з кілёграму;

б) утрымліваючую у адным фунце звыш 2, але ня звыш 3 маткоў—сем капеяк з фунту або семнадцаць і адну дзесятую капейкі з кілёграму.

Увага. Пряжа з кароўей шерсьці, утрымліваючая у адным фунце звыш з маткоў, абкладаецца акцызам па стаўкам, устаноўленым для адпаведных гатункаў апаратнай пражы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **Л. Енукідзе.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 58 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

## 75. Аб з'іначаньні арт. арт. 1, 3 і 4 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. аб ўзаемных разьліках народнага камісарыяту шляхаў зносін з дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыёмствамі водлуг прэтэнзіяў і паўстаўшых да 1 кастрычніка 1923 г.

З прычыны выявіўшайся вялізарнасьці працы, якая павінна быць выканана часовай камісіяй улагоджаньня пры народным камісарыяце шляхаў зносін па выясь-

неньню і упарадкаваньню узаемных разьлікаў народнага камісарыяту шляхаў зносін з іншымі дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыёмствамі, і фактычнай немажлівасьці завяршэньня паказанае працы да 1 красавіка 1924 году, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, каб з'іначыць тэрміны, паказыя у арт. арт. 1, 3 і 4 пастановы сваёй ад 14 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 224) **пастанаўляюць:**

1. Тэрмін заканчэньня ускладзенае на часовую камісію улагоджаньня пры народным камісарыяце шляхаў зносін, згодна арт. 1 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г., працы працягнуць да 1 ліпеня 1924 г., з прытрыманьнем да таго ж часу, згодна арт. 4 памянёнае пастановы, выплаты па прэтэнзіям і выплаты па выканаўчым лістам.

2. Канчатковым тэрмінам для заявы прэтэнзіяў і дамаганьняў, прадгледжаных арт 3 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г., устанавіць 1 красавіка 1924 г., а калі хто прапусьціць гэты тэрмін, той траціць права на дамаганьне.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 58 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

## 76. Аб парадку залічэньня грамадзян у каманды абслугоўваньня у 1924 г.

Дзеля адмены дэкрэту Савету Народных Камісараў РСФСР ад 20 ліпеня 1918 г. „о тыловом ополчении“ (Зб. Зак. РСФСР 1918 г., № 54, арт. 604) і адпаведных пастановаў і законаў, дзеючых у саюзных рэспубліках, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Грамадзяне, якія ня маюць права выбіраць і быць выбіраемымі у саветы, згодна арт. 23 і п. п. „а“, „б“, „в“, „г“ і „д“ арт. 65 контытуцыі РСФСР і адпаведным артыкулам конэтытуцыяў іншых саюзных рэспублік, падлягаючыя прызыву у 1924 г., залічэньню у рады чырвонай арміі не падлягаюць, але прыцягваюцца на ваенную службу з залічэньнем у каманды абслугоўваньня. У каманды абслугоўваньня залічаюцца так сама грамадзяне, якія па сваей варожасьці да савецкай ўлады ня могуць быць допушчаны у рады чырвонай арміі, а роўна грамадзяне, высланыя у адміністратыўным парадку на ўвесь час іх высылкі.

Увага. Грамадзяне, якія страцілі права выбіраць па суду, падлягаюць прызыву на сапраўдную ваенную службу на агульных падставах, пасьля канчатку тэрміну правапаражэньня.

2. Складаньне сьпісаў грамадзян, падлягаючых залічэньню у каманды абслугоўваньня, робіцца мясцовымі прызыўнымі камісіямі, з удзелам прадстаўніка мясцовага органу дзяржаўнага палітычнага упраўленьня. У аснову сьпісаў павінны быць паложаны довады, якія маюцца у павятовых упраўленьнях міліцыі і ў адміністратыўных аддзелах губэрскіх выканаўчых камітэтаў аб грамадзянах, не карыстаючыхся правамі выбіраць, і маюцца у памянёных установах, а так сама у органах Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня, веды аб грамадзянах, якія ня могуць быць допушчаны у рады чырвонай арміі па варожасьці да савецкай ўлады.

3. Сьпісы грамадзян, прызначаных да залічэньня у каманды абслугоўваньня, падаюцца прызыўнымі камісіямі на зацьверджаньне прэзыдыумаў належных выканаўчых камітэтаў.

4. Грамадзяне, памянёныя у арт. 1 павінны з'ўляцца да прызыву аднарасова са сваімі аднагодкамі, але ня прымаюць удзел у агульнай жэрабоўцы і не карыстаюцца правам льготы па сямейнаму становішчу.

5. Грамадзяне, памянёныя у арт. 1, прызнаныя пасьля мэдыцынскага агляданьня годнымі да службы, прымаюцца на двухгадовы тэрмін у каманды абслугоўваньня.

6. Каманды абслугоўваньня утрымліваюцца за кошт дзяжавы ня гледзячы на устаноўлены лік у рабоча-сялянскай чырвонай арміі, рабоча-сялянскага чырвонага флёту і войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня.

7. У выпадку немагчымасьці пагалоўнага залічэньня у каманды абслугоўваньня усіх памянёных у арт. 1 грамадзян, прызнаных годнымі да службы, пытаньне аб залічэньні ці незалічэньні іх у каманды абслугоўваньня вырашаецца асобнай жэраб'ёўкаю.

8. Грамадзяне, прызначаныя да службы у камандах абслугоўваньня і няпрынятыя на службу па свайму здароўю ці з'явіўшыяся лішнімі, і так сама грамадзяне, якія адбываюць службу у камандах пры тэрыторыяльных частках, абавязаны выплачываць адумысловы ваенны падатак.

9. Стаўкі і парадак спагнаньня адумысловага ваеннага падатку, паказанага у арт. 8, даручаецца у карацейшы тэрмін выпрацаваць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, водлуг згоды з Революцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР і падаць на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных камісараў Саюзу ССР.

10. Як праслужаць два гады у камандах абслугоўваньня, паказаныя у арт. 1 грамадзяне залічаюцца у запас, з якога прызываюцца з абвесткаю мабілізацыі і ў ваенны час, дзеля абслугоўваньня арміі, як у тылу, гэтак і на фронце.

11. Скаргі грамадзян на пастановы прызыўных камісіяў аб прызначэньні іх у каманды абслугоўваньня падаюцца праз прызыўныя камісіі, якія павінны у тродзённы тэрмін адсылаць іх са сваімі заключэньнямі і з усімі маючыміся матар'яламі на разгляданьне прэзыдыумаў належных выканаўчых камітэтаў. Вырашэньні апошніх лічуцца канчатковымі.

12. Нявыконаньне правілаў прызыву і праходжаньня службы у камандах абслугоўваньня караюцца у агульным карачынным парадку, роўна з нявыконаньнямі правілаў прызыву і праходжаньня службы у радах чырвонай арміі.

**13.** Рэвалюцыйнаму Ваеннаму Савету Саюзу ССР даецца права выдаваць інструкцыі па ужываньню гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 62 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 сакавіка 1924 г.

## 77. Аб выпуску сялянскае выйгрышнае пазыкі.

У мэтах палягчэньня сялянскаму насельніцтву выплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку, а так сама дачы магчымасьці удобнага і выгоднага зьмяшчэньня сваіх зьберагальняй, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Выпусьціць дзяржаўную сялянскую выйгрышную пазыку на суму 50,000,000 руб. золатам тэрмінам з 1 красавіка 1924 г. па 31 сьнежня 1926 г. уключна, на ніжэйнаступных падставах.

**2.** Пазыка ўносіцца ў кнігу дзяржаўных пазыкаў Саюзу ССР пад назваю „Сялянская выйгрышная пазыка 1924 году".

**3.** Сялянская выйгрышная пазыка выпушчаецца асобнымі сэрыямі па 5.000.000 руб. золатам кожная, у аблігацыях рублёва (з адным нумарам), трохрублёвае (з трымя нумарамі) і пяцірублёвае (з пяцьцю нумарамі) вартасьці.

**4.** Выпускная цана аблігацыяў назначаецца ў 85 капеек за адзін рубель.

Увага. Па гэтай цане аблігацыі выпушчаюцца ў працягу ўсяго часу перадплаты, працяг якога вызначаецца народным камісарыятам грашовых справаў. Па законччаньні часу перадплаты народнаму камісарыяту грашовых справаў даецца устанаўліваць прадажную цану аблігацыяў, якая, аднак, не павінна быць ніжэй выпускной цаны.

**5.** Па аблігацыям пазыкі вытвараюцца тыражы выйгрышаў усяго 8 тыражаў. Тэрмін тыражоў, а так сама парадак іх вытворчасці даецца вызначыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

Першы тыраж выйгрышаў назначаецца не пазьней 1 лістападу 1924 году.

**6.** Агульны лік выйгрышаў вызначаецца у 177.200 на суму—2.000.000 (два мільёны) рублеў золатам, як:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 80 | выйгрышау | па | 1.000 | рублеу. |
| 1.200 | " | " | 100 | " |
| 8.000 | " | " | 50 | " |
| 20.000 | " | " | 25 | " |
| 50.000 | " | " | 10 | " |
| 100.000 | " | " | 5 | " |

У кожны тыраж разыгрываецца адпаведны лік выйгрышаў на кожную сэрыю пазыкі.

Увага. Кожны выйгрыш падае на асобны нумар. На пяцёхрублёвую (з пяцьцю нумарамі) і на трохрублёвую (з трымя нумарамі) аблігацыю можа адначасова выпасьці адпаведна пяць і тры выйгрышы.

**7.** Працантны прыбытак па аблігацыям пазыкі выплачваецца па купонам тэрміновым на 1 лютага 1925 г. і 1 лютага 1926 г. велічынёю у 5% з назоўнай цаны аблігацыяў.

**8.** Аблігацыі сялянскае пазыкі у 1924, 1925 і 1926 г.г. прымаюцца па назоўнай іх цане у выплату адзінага сельска-гаспадарчага падатку. Пры ўзносе аблігацыяў у выплату адзінага сельска-гаспадарчага падатку, купоны, якім наступіў тэрмін (арт. 7), залічваюцца у выплату падатку.

**9.** Аблігацыі сялянскае пазыкі могуць закладывацца і прадавацца.

**10.** Аблігацыі пазыкі прымаюцца велічынёю у 75% іх назоўнай цаны у залог па дзяржаўным падрадам і дастаўкам, а таксама для забясьпечаньня ссудаў, выдаваемых сельска-гаспадарчымі банкамі і таварыствамі сельска-гаспадарчага рэдыту.

**11.** Аблігацыі пазыкі і зьделкі з аблігацыямі пазыкі не падлягаюць абкладаньню якімі б там ня было агульна-дзяржаўнымі ці мясцовымі падаткамі і зборамі.

Выплачваемыя трымацелям пазыкі выйгрышы так сама звальняюцца ад усякага абкладаньня і ня ўходзяць у вылічэньне агульнай сумы прыбытку, абкладаемага прыбыткова-памаентным падаткам.

**12.** Выкуп аблігацыяў сялянскае выйгрышнае пазыкі робіцца з 1 красавіка па 31 сьнежня 1926 г., праз выплату трымацелям аблігацыі іх назоўнае цаны. Парадак вытворчасьці выкупу устанаўліваецца народным камісарам грашовых справаў Саюзу ССР.

13. Для адтрыманьня выкупной сумы (арт.), працантнага прыбытку па аблігацыям пазыкі (арт. 7) і для заявак на адтрыманьне выйгрышаў, у інтэрасах трымацеляў пазыкі, устанаўліваецца льготны трохгадовы тэрмін з дня закончаньня выкупу г. ё. з 1 студзеня 1927 г., пасьля чаго трымацелі не падатыя вымаганьняў аб выплаце выкупной цаны аблігацыяў, аплаце тэрміновых купонаў і выдачы выйгрышаў, трацяць права на адтрыманьне належачых ім сумаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

19 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 65 „Известий ЦВК Саюзу ССР" ад 20 сакавіка 1924 г.

## 78. Аб устанаўленьні адлічэньня у мясцовыя сродкі ад асобнага збору з рахункаў, падаваемых гасьцініцамі, рэсторанамі і іншых падобнымі прадпрыёмствамі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Устанавіць адлічэньне у мясцовыя сродкі ад асобнага збору з рахункаў, падаваемых гасьцініцамі, рэсторанамі і іншымі падобнымі прадпрыёмствамі (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 8, арт. 226) велічынёю у 25% паступленьняў гэтага збору па кожнай губэрні (краіне).

**2.** Дапоўніць арт. 36 часовага палажэньня аб мясцо-

вых грашах (Пастановы 3-й сэсіі ЦВК Саюзу ССР 1923 г., п. IV, „б“) пунктам „з“ наступнага зьместу: „з) ад асобнага збору з рахункаў, падаваемых гасьцініцамі, рэсторанамі і іншымі подобнымі прадпрыёмствамі на падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 15 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 8, арт. 226), велічынёю у 25% паступленьняў гэтага збору па кожнай губэрні (краіне).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалашана у № 69 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 25 сакавіка 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Народных Камісараў

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік

### 79. Аб прымусовым разьмяркаваньні дзяржаўнае 6% выгрышнае пазыкі сярод прыватных падрадчыкаў, дастаўнікаў і камісіянэраў у лік выплатаў водлуг умоваў, зробленых пасьля 18 верасьня 1923 г.

Каб як найраўней разьмяркаваць дзяржаўную 6% залатую выйграшную пазыку сярод усіх колаў заможнага насельніцтва, Савет Народных камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Разьмяркаваць, водлуг ніжэй паданых падставаў, аблігацыі дзяржаўнае 6% выгрышнае пазыкі сярод прыватных прадпрыёмстваў і асобаў, зрабіўшых пасьля 18 верасьня 1923 г. ўмовы наконт падраду, дастаўкі і камісіённага даручэньня з дзяржаўнымі (у тым ліку камунальнымі), коопэрацыўнымі і прыватнымі установамі і прадпрыёмствамі.

**2.** Памянёныя у арт. 1 установы і прадпрыёмствы, выплачваючы прыватным падрадчыкам і дастаўнікам сумы, належачыя ім водлуг умоваў, зробленых пасьля 18 верасьня 1923 г., 15% сумы кожнае выплаты павінны выплаціць аблігацыямі 6% выгрышнае пазыкі.

**3.** Адтрымоўваючым камісіённую ўзнагроду за даручэньні, ўзятыя імі ад памянённых у арт. 1 установаў і прадпрыёмстваў пасьля 18 верасьня 1923 г., абавязкова выплачваецца, у лік камісіённае ўзнаграды, пры кожнай выдачы ж, 20% выплачваемай суммы аблігацыямі 6% выйграшнае пазыкі.

**4.** Калі частка выплатаў водлуг ўмовы наконт падраду і дастаўкі, а гэтак жа водлуг камісіённага абавязацельства і даручэньня ужо зроблена, бяз выдачы у лік выплатаў аблігацыяў пазыкі у вышэй паказанай велічыні, то гэткая выдача робіцца пры другой чарговай выплаце, як задатак да належача, водлуг гэтае апошняе выплаты, выдачы аблігацыяў, на суму, не перавышваючую, аднак, велічыні гэтае выплаты.

**5.** Каб выдаваць аблігацыі падрачыкам, дастаўнікам і камісіянерам водлуг паказаных падставаў, памянёныя у арт. 1 установы і прадпрыёмствы павінны набыць аблігацыі у мясцовых аддзелах грашовых справаў, водлуг асобных заяваў, якія не подпадаюць пад аплату гэрбавым зборам. Пры гэтым на аблігацыях, якія набываюцца каб выдаваць у лік выплату, якія датычацца тэрмінаў да 1 студзеня 1924 г. органамі грашовых справаў павінна рабіцца паметка аб заневоленьні прымаць памянёныя аблігацыі у заклад і катыроўкі іх на біржы.

Пералічаныя вышэй установы і прадпрыёмствы павінны мець гэткім аблігацыям дакладны учот, а належачыя аддзелы грашовых справаў рэгістраваць прадаваемыя на гэтай падставе аблігацыі пазыкі у асобных сьпісах, з паказаньнем назвы установаў і прадпрыёмстваў, адтрымаўшых аблігацыі і нумароў гэтых аблігацыяў.

Увага. Памянёнае у гэтым артыкуле заневоленьне прымаць у залог і катыраваць на біржы аблігацыі, разьмяркоўваемыя водлуг гэтае пастановы, мае моц да 1 студзеня 1925 году.

**6.** Ня выконаньне гэтае пастановы урадавымі асобамі дзяржаўных і коопэратыўных установаў і прадпрыёстваў, а гэтак жа прыватнымі асобамі караецца водлуг адпаведных артыкулаў угалоўных кодэксаў саюзных рэспублікаў.

**7.** Гэтую пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Ɒ. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

19 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.

Агалошана у № 47 „Известий ЦВК Саюзу ССР ад 26 лютага 1924 г.

---

### 80. Аб зацьвержаньні дыфэрэнцыянага мытнага тарыфу дзеля тавараў, якія прывозяцца і вывозяцца праз Мурманскі порт.

Дзеля адмены пастановы Савету Народных Камісараў РСФСР ад 23 траўня 1923 г. аб дыфэрэнцыяльных мытных стаўках на тавары, якія прывозяцца і вывозяцца праз Мурманскі порт (Зб Зак. РСФСР 1923 г., № 49, арт. 487), Савет Народных Камісараў Саюзу ССС **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць наступны дыфэрэнцыяльны мытны тарыф дзеля тавараў, якія прывозяцца і вывозяцца праз Мурманскі порт:

| Арт. арт. мытнага тарыфу. | НАЗВА ТАВАРАЎ. | Скідка з мытных ставок з 100 кілёграмаў у руб. кап. золатам. | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | У часы летняга плаваньня з 15 красавіка па 15 лістападу. | | У часы зімняга плаваньня з 16 лістападу па 14 красавіка. | |
| | **А. Тавары якія прывозяцца.** | | | | |
| 2 п. 1 | Рыс гатовы | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 3 „ 1 | Мука ўсякая | „ | „ | „ | „ |
| 3 „ 2, 3 | Крупы | „ | „ | „ | „ |
| 5 „ 1, 2, 3 | Агародніна | 3 | — | 3 | — |
| 18 „ 1 | Кава сырая зярнятамі | 11 | — | 11 | — |
| 20 „ 1 | Гарбата ўсякая, акрамя у цаглінах | 11 | — | 11 | — |
| 22 „ 1-а | Цукар-сырэц | 6 | 10 | 6 | 10 |
| 24 „ 4 | Выпаранае і сухое малако | 3 | — | 3 | — |
| 33 „ 2 | Соль дзеля варыва | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 37 „ 4 | Селядцы высаленыя і выкапчаныя | 2 | 10 | 2 | 10 |
| 51 „ 1 і 2 | Сала ад жывёлаў, варволь, рыбі жыр і іншае | 2 | 40 | 3 | 70 |
| 54 „ 1, 2 | Кожы і шкуры нявырабленыя | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 55 „ 1, 2, 3, 4 і 5 | Кожы выробленныя | 10 | 40 | 12 | 80 |
| 57 „ 1 і 7 | Абуцьцё і пасы | 13 | 40 | 13 | 40 |
| 62 „ 5-б | Копра і рыцынавае насеньне | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 82 „ | Кань-фоня і галіпот | 3 | — | 4 | 60 |
| 88 „ 1 | Гума, гутаперга і балата сырыя | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 143 „ 1 | Медзь у штыхах, зьлітках і плітах | 4 | 20 | 4 | 20 |
| 143 „ 2 і 3 | Медзь у лістах, пружах і палосах | 13 | 40 | 14 | 60 |
| 144 „ 2 | Волава у лістах | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 146 „ 1 і 2 | Сьвінец у плітах і сьвінках, у ломе, ролях і лістах | „ | „ | „ | „ |
| 147 „ 1 і 2 | Цына у сьвінках, ломе і лістах | „ | „ | „ | „ |
| 150 „ 1, 2 і 3 | Чыгун у справе (отлiўкі і вырабы з чыгуна) | 2 | 40 | 3 | — |
| 151 „ | Жалезныя і сталёвыя кутыя і штампованыя вырабы | 4 | 30 | 5 | 20 |
| 152 | Жалезныя і сталёвыя вырабы катэльнае работы (катлы, магазыны, бакі, трубы і інш.) | 2 | 40 | 3 | 70 |
| 153 „ 1 і 2 | Жалезныя і сталёвыя вырабы, абробленыя, абточаныя, паліраваныя і іншым чынаш абробленыя, у тым ліку вінты дзеля дрэва. | 4 | 90 | 6 | 10 |
| 154 „ 1 і 2 | Вырабы з матар'ялаў, названых у арт. 141, няхай нават з каляровымі берагамі і узорамі | 6 | 10 | 7 | 90 |
| 155 „ 1 і 2 | Дрот жалезны, сталёвы і медны | 4 | 90 | 6 | 10 |
| 156 „ 1 | Драцяныя вырабы жалезныя і сталёвыя, карды, канаты і тросы драцяныя | 4 | 90 | 6 | 10 |
| 156 „ 2 і 3 | Драцяныя вырабы з медзі, электрычныя кабелі | 13 | 40 | 15 | 30 |
| 160 | Ручныя сельска-гаспадарчыя інструмэнты | 2 | 40 | 4 | 90 |
| 161 | Інструмэнты ручныя дзеля рэмесл., мастацкіх фабрыкаў і заводаў. | 4 | 30 | 5 | 20 |
| 167 „ 1, 2, 3, 4, 7, 8, 9 і 10 | Машыны і апараты і іх часткі і належнасьці, акрамя машынаў с.-х., швейных і пішучых | 2 | 40 | 3 | 70 |
| 167 „ 1-б і в | Машыны швейныя і пішучыя | 11 | — | 13 | 40 |
| 167 „ 5 і 11-б | Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады і іх часткі | 1 | 50 | 2 | 10 |
| 179 „ 1 | Хлапок-сырэц | Бяз | мытна | Бяз | мытна |
| 179 „ 2 | Джут-сырэц | 4 | 90 | 6 | 10 |
| 181 | Шэрсьць і пуша нячосаная і няпрадзеная | 4 | 90 | 6 | — |
| 187 і 188 | Паняровыя шканіны, суравыя, беленыя, мерсеризованыя, крашаныя, набіўныя і пярэстатканыя | 15 | 20 | 15 | 20 |
| 190 | Канаты, вяроўкі, бічоўкі і сеці | 4 | 60 | 4 | 60 |
| 191 | Мяшкі джутовыя, халстовыя і з конефы, а гэтак сама тоўстыя мяшочныя і запаковачныя тканіны з джуту і конефы | 3 | — | 3 | — |
| 192 | Тканіны з джуту, конефы, лёну, пянькі і інш., запакованыя у яшчыкі | 15 | 20 | 15 | 20 |
| 192 | Тканіны з джуту, конефы, лёну, пянькі і інш., не запакованыя у яшчыкі | 4 | 90 | 4 | 90 |
| 198 | Шэрсьцяныя войлакі і матар'ялы з войлакаў | 15 | 20 | 15 | 20 |
| 199 і 200 | Шэрсьцяныя тканіны ўсякія | 15 | 20 | 15 | 20 |
| 201 | Пасы з шэрсьці вярблюдзяў | 15 | 20 | 15 | 20 |
| 203 | Бесканечныя палотны з шэрсьці дзеля ужываньня на фабрыках | 15 | 20 | 15 | 20 |
| | **Б. Тавары якія вывозяцца.** | | | | |
| 6 | Кішкі, трыбухі жывёлаў: | | | | |
| | 1) Мокрапасоленыя | — | 90 | 1 | 50 |
| | 2) Сухія | 1 | 80 | 2 | 40 |
| 13 | Мяккія рэчы (пушніна ўсякая) | 15 | 20 | 21 | 40 |
| 20 | Лён чосаны, тропаны і сырэц | — | 90 | 1 | 50 |

19 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.
Агалошана у № 49 „Известий ЦВК Саюзу ССР" ад 28 лютага 1924 г.

*Старшыня СНК Союзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраўнік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

## 81. Аб парадку выдачы дазволаў на прыезд з-за кардону ў межы Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

У дадатак і дзеля вытлумачэньня арт. 1 палажэньня аб сталай камісіі Савету Працы і Абароны па упарадкаваньню сельска-гаспадарчае і прамысловае іміграцыі, зацьверджанага СНК РСФСР 28 лістападу 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 79, арт. 997), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Дазвол на прыезд у межы Саюзу ССР асобам замежнага грамадзянства, прыбываючым у межы Саюзу ССР з мэтаю скарыстаньня сваёй працы у прамысловасьці або сельскай гаспадарцы, у парадку групавым ці адзіночным (прамысловым і сельска-гаспадарчым іміграптам), выдаецца належнымі органамі народнага камісарыяту па замежным справам няйначы, як па згодзе з камісіяй Савету Працы і Абароны па упарадкаваньню селька-гаспадарчае і прамысловае іміграцыі.

**2.** Дазвол на прыезд асобам, прыбываючым ў межы Саюзу ССР на кароткі час жыць з дыплёматычнымі, політычнымі, гандлёва-прамысловымі і іншымі, апрача прадгледжаных у арт. 1, мэтамі, выдаецца належнымі органамі народнага камісарыяту замежных справаў без папярэдняга улагоджаньня пытаньня з камісіяй Савету Працы і Абароны па упарадкаваньню сельска-гаспадарчае і прамысловае іміграцыі.

**3.** Даручыць народнаму камісарыяту замежных справаў, водлуг згоды з сталаю камісіяй СПА па упарадкаваньню сельска-гаспадарчае і прамысловае іміграцыі выпрацаваць інструкцыю аб парадку прыезду у межы Саюзу ССР асобаў, зьберагаючых і аднаўляючых савецкае грамадзянства (рээмігрантаў).

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

19 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

## 82. Аб адумысловых сродках для забясьпечаньня дзяржаўнае аховы культурных каштоўнасьцяў.

З мэтаю матар'яльнага забясьпечаньня дзяржаўнае аховы культурных каштоўнасьцяў: музэяў, помнікаў мастацтва, старыны, народнага быту і г. п. і скарачэньня выдаткаў дзяржавы па ахове памянёных каштоўнасьцяў, Савет Народных камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Саветам народных камісараў саюзных рэспублік даецца права дазваляць народным камісарыятам асьветы аўтаномных рэспублік мець адумысловыя сродкі, атрымлівыя:

а) ад спагнаньня платы за ўход, прадажы адпаведных выданьняў, права на выданьні;

б) ад эксплёатацыі зямельных вучасткаў, будоваў і інш. маемасьці, ня маючых гістарычна-мастацкага значаньня, але зьвязаных з музэямі, дварцамі, цэрквамі, манастырамі, паркамі, запаведнікамі і інш., знаходзячыміся у веданьні народных камісарыятаў асьветы.

**2.** Парадак ужываньня гэтае пастановы устанаўліваецца саветамі народных камісараў саюзных рэспублік.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

19 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 71 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 27 сакавіка 1924 г.

## 83. Аб дазволу часовага вольнага (бяз ліцэнцыяў) прывозу буйнае рабочае жывёлы і коняў праз кардон з заходнім Кітаям.

Для вынятку з дзеючых законапалажэньняў аб замежным гандлі, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Часова, на тэрмін да 1 ліпеня 1924 г. дазволіць вольны (без абавязковага браньня ліцэнцыяў народнага камісарыяту замежнага гандлю) прывоз буйнае рабочае жывёлы і коняў праз кардон з заходнім Кітаям.

**2.** Даручыць народнаму камісарыяту замежнага гандлю у тыднёвы тэрмін вызначыць дзеля кожнае катэгорыі жывёлаў колькасьць галоў, дапушчаемых да вольнага прывозу з тым, каб вартасьць ўсяго контынгэнту адпавядала велічыні крэдытаў, адпушчаных на закупку жывёлы для Фэрганскае краіны.

**3.** Прызоз коняў і рабочае жывёлы у межах, перавышаючых паказаны у арт. 2, контынгэнт, пад падае пад агульны парадак.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

19 лютага 1924 г. Масква — Крэмль.

## 84. Аб парадку разьмяркаваньня сумаў, сабраных ад рэалізацыі контрабандных тавараў, конфіскаваных мытнымі органамі.

Дзеля з'іначаньня арт. 3 пастановы СНК РСФСР ад 14 ліпеня 1922 г. аб прэміраваньні асобаў, затрымаўшых контрабанды і рэалізацыі конфіскаванае мытнымі установамі і безгаспадарнае маемасьці (Зб. Зак. 1922 г., № 45, арт. 554) і арт. 3 інструкцыі аб парадку прэміраваньня затрымаўшых контрабанду, зацьверджанай СНК РСФСР 22 верасьня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 61, арт. 778), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** З сумаў, сабраных ад рэалізацыі конфіскаваных мытнымі органамі контрабандных тавараў, апрача памянёных у арт. 2 гэтае пастановы, 30% йдзе у прыбытак Аб'яднанага Дзяржаўнага Політычнага Упраўленьня на паляпшэньне снабжэньня харчамі і рэчамі пакардонных войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Політычнага Упраўленьня, а рэшта, за адлічэньнем ад іх сумаў на судовыя выдаткі, перавозку і рэалізацыю, разьмяркоўваецца наступным чынам (лічучы астаўшуюся суму за 100%.

а) пры затрыманьні контрабанды супрацоўнікамі мытных органаў—33% прамым затрымацелям, 20%—непрамым, 30%—адпаведнай мытнай акрузе і 17%—належным органам Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня; пры адсутнасьці непрамых затрымацеляў, належачыя ім 20% перадаюцца галоўнаму мытнаму упраўленьню;

б) у ва ўсіх іншых выпадках затрыманьня, апрача паказанага у п. „а" арт. 1,—33% прамым затрымацелям, 20%—непрамым, 47%—належным органам Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня; пры адсутнасьці непрамых затрымацеляў, належачыя ім 20% перадаюцца Аб'яднанаму Дзяржаўнаму Палітычнаму Упраўленьню.

Увага. Калі праносчыкі контрабанды не затрымалі, дык прамыя і непрамыя асобы, затрымаўшыя іх, адтрымліваюць прэмію у палавіннай, процїў паказанае у п. п. „а" і „б", велічыні, а застаўшаяся палова йдзе у прыбытак Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня на паляпшэньне снабжэньня харчамі і рэчамі пакардоннай аховы.

**2.** Сумы, адтрымліваемыя за конфіскаваныя і перададзеныя належным ведамствам рэчы воінскага знаражэньня, аружжа, ўзрыўчатыя маторы, апараты да лятаньня, сьпірт і сьпіртовыя напіткі, а роўна пеня, спачнаная на падставе арт. арт. 12—15 палажэньня аб мытнай ахове (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 58, арт. 734), разьмяркоўваюцца у парадку пастановы СНК Саюзу ССР ад 20 ліпеня 1923 г. аб прэміраваньні затрымаўшых контрабандныя рэчы, перадаваемыя дзяржаўным органам (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 3, арт. 92).

**3.** Гэта пастанова ажыцьцяўляецца з 15 сакавіка 1924 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраўнік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 61 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 14 сакавіка 1924 г.

---

## 85. Аб парадку ужываньня пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1924 г. аб абаюдных разьліках народнага камісарыяту шляхаў зносін з дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыёмствамі па прэтэнзіям, паўстаўшым да 1 кастрычніка 1923 г.

Для вытлумачэньня пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. аб ўзаемных разьліках народнага камісарыяту шляхаў зносін з дзяржаўнымі установамі і прадпрыёмствамі па прэтэнзіям, паўстаўшым да 1 кастрычніка 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 224), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Вытлумачэньню і урэгуліраваньню парадкам, прадгледжаным у арт. арт. 1, 2 і з пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. падлягае, у межах, устаноўленых артыкуламі 2 і 3 тэй жа пастановы, толькі задоўжанасьць самога народнага камісарыяту шляхаў зносін і такіх пад'уладных апошнему і абслугоўваючых патрэбы дзяржаўнага транспарту органаў, якія згодна дзеючых аб іх палажэньняў, поўнасьцю ці часткаю утрымліваюцца на дзяржаўным бюджэту (кіраўніцтвы і упраўленьні чыгунак, адбудоўчыя арганізацыі і г. п.); на пад'уладныя ж народнаму камісарыяту шляхаў зносін установы і прадпрыёмствы, поўнасьцю пераведзеныя на пачаткі камэрцыйнага разьлічэньня, у па асабовасьці, на марскія і рачныя дзяржаўныя параходзтвы, дзейнасьць пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. не пашыраецца.

Увага. Пагашэньне ўзаемных прэтэнзіяў дзяржаўных параходзтваў паміж сабой і з іншымі органамі народнага камісарыяту шляхаў зносін робіцца унутрыведамсьцьвеным парадкам, а зьвязаныя з такімі разьвязваюцца народным камісарыятам шляхаў зносін.

**2.** Дзейнасьць пастановы ад 14 лістападу 1923 г. пашыраецца на памянёныя у ім прэтэнзіі, паўстаўшыя паміж паказанымі у папярэднім артыкулу органамі народнага камісарыяту шляхаў зносін і ўсімі дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыёмствамі Саюзу ССР і саюзных рэспублік, у тым ліку утрымліваючыміся на мясцовым бюджэту, але не пашыраецца на акцыянэрныя таварыствы, ід якіх фактычна прымае удзел, апрача дзяржаўнага гэтак сама і прыватны капітал.

**3.** Дзеючы на правох паўнамоцнага органу улагоджаньня, утвораная на падставе арт. 1 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. часовая камісія улагоджаньня прымае да свайго разгляданьня справы па прэтэнзіям як спрэчным, гэтак і бязспрэчным, г. ё. прызнаным ужо канчатковым вырашэньнем компэтэнтнага суду ці іншае урадовае установы, адбыўшымся да 14 лістападу 1923 г. пры чым камісіі належыць права вырашэньня спрэчных прэтэнзіяў водлуг істотнасьці або, у выпадку прызнанай ёю неабходнасьці у гэтым, звароты гэткіх дамаганьняў да папярэдняга судовага разбірацельства. Вырашэньне ж сваё наконт пытаньня аб парадку і спосабах ліквідаваньня задоўжанасьці часовая камісія улагоджаньня, па заканчаньні ускладзенае на яе працы, падае на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны.

**4.** Адпаведна з артыкулам з гэтае пастановы, судовыя і іншыя ўрадовыя установы, у паасобнасьці арбітражныя камісіі, заканчываючы разгляданьнем ўсе знаходзячыяся да часу выданьня гэтае пастановы у іх вытворчасьці і падпадаючыя под дзейнасьць арт. 2 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. вымаганьні і дамаганьні, зараз ж паведамляюць часовай камісіі улагоджаньня копіі прынятых імі вырашэньняў або пастановаў. Узбуржэньне ж у судовых і іншых ўрадовых установах, у паасобнасьці, у арбітражных камісіях новых справаў гэтай катэгорыі, апрача дамаганьняў і прэтэнзіяў, пазначаных у арт. арт. 3 і 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. дапушчаецца няйначы, як пры прысутнасьці пасьведчанае дзеля гэтага згоды часовай камісіі улагоджаньня.

**5.** Да ліку прэтэнзіяў, выявіўшыхся з перавозак і іншых прыслугаў транспарту, дадзеных у цэнтралізаваным парадку (п. „а" арт. 2 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г.), адносяцца

толькі грашовыя вымаганьні за перавозкі і іншыя прыслугі трнаспарту, якія даваліся па пастановам заканадаўчых органаў ці па загадам народнага камісарыяту шляхаў зносін з наступным разьлічэньнем праз цэнтральныя установы народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**6.** Устаноўлены арт. 3 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лістападу 1923 г. скарочаны даўнейшы тэрмін дзеля заявы парадкам, прадгледжаным у статуце чыгунак, вымаганьняў і дамаганьняў выяўляючыхся з дагавору перавозкі па чыгункам, не пашыраецца на вымаганьні, не прадгледжаныя у п. п. „а“ і „б“ арт. 2 памянёнае пастановы ад 14 лістападу 1923 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 62 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 сакавіка 1924 г.

---

## 86. Аб дазволу безліцэнцыённага прывозу і вывозу тавараў праз кардон з Манголіяй і Уранхаям.

Дзеля вынятку з пастановы СНК РСФСР ад 12 красавіка 1923 г. аб кантынгэнтах, ліцэнцыях і пасьведчаньнях на прывоз і вываз (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 40, арт. 424) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Дазволіць на кардону Саюзу ССР з Манголіяй і Уранхаям прывоз у межы Саюзу ССР сырызны і рэчаў харчаваньня мангольскага і уранхайскага пахаджэньня, а гэтак жа вываз у межы Манголіі і Уранхаю усялякіх тавараў, паходжэньне з Саюзу ССР,—без падачы устаноўленных дакумэнтаў, пасьведчваючых права вывазу і прывозу.

**2.** Тавары, якія прывозяцца і вывозяцца праз кардон з Манголіяй і Уранхаям водлуг арт. 1 гэтае пастановы, належыць прапушчаць праз кардон без падачы пасьведчаньняў аб іх панахаджэньні.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 87. Аб адмене вывазное мыты на грэжу.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выкласьць артыкул 21 мытнага тарыфу па вывазному гандлю, зацьверджанага СНК Саюзу ССР 17 студзеня 1924 г., у наступнай рэдакцыі:

Арт. 21 шоўк:

1. Коканы цэлыя. . . . . . . . . . . 1 кг. бр. 25 кап.
2. Коканавы бракус і шаўковыя адбросы ўсіх гатункаў і назваў . . . . . бязмытна.
3. Грэжа ўсякая . . . . . . . . . бязмытна.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Спрамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 88. Аб парадку выкупу савецкіх грашовых знакаў, на якіх не пазначана вартасьць у цьвёрдай валюце.

З прычыны ўкараненьня у звароце цьвярдае валюты і з мэтаю, каб спаўна спыніць страты, якія маюць працоўныя масы і народная гаспадарка ад здзешавеньня савецкіх грошаў, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 14 лютага 1924 году аб спыненьні выпуску (эмісіі) Савецкіх грошаў, каштоўнасьць каторых не пазначана у цьвярдай валюце (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 2, арт. 39), **пастанаўляе:**

**1.** Узяцца за выняцьце з звароту савецкіх грошаў, на якіх не азначана каштоўнасьць у цьвярдай валюце, шляхам выкупу іх па цьвёрдаму курсу.

**2.** Цьвярды курс памянёных у арт. 1 савецкіх грошаў паставіць з 10 сакавіка 1924 г. ў рубель золатам за 50.000 рублёў грашамі ўзору 1923 г. Адпаведна гэтаму вызначыць наступныя цьвярдыя парытэты купюраў грошаў ўзору 1923 году:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 500 | р. | граш. | зн. | ўзору | 1923 г. | адпавядаюць | 1 | кап. | срэбрам. |
| 1.000 | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 2 | „ | „ |
| 5.000 | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 10 | „ | „ |
| 10.000 | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 20 | „ | „ |
| 15.000 | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 30 | „ | „ |
| 25.000 | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 50 | „ | „ |

**3.** Застаючыяся у хаду грошы ўзору 1923 году абавязкова павінны прынімацца дзяржаўнымі, коопэрацыйнымі і прыватнымі установамі, прадпрыёмствамі і асобамі водлуг вызначанага у арт. 2 гэтае пастановы курсу па 10 красавіка 1924 г. уключна. Прыёмка грошаў ўзору 1923 г. дзеля выплатаў скарбніцамі народнага камісарыяту грашовых справаў і дзяржаўнага банку і адмен іх гэтымі скарбніцамі на цьвярдыя грошы рабіць па 30 красавіка 1924 году уключна.

Увага. Купюры савецкіх грошаў вартасьцю меньш 500 рублёў ўзору 1923 г. прымаюцца на адмен ў тым разе, калі падаецца іх на суму ня меньш 500 р. ўзору 1923 г.

**4.** Спыніць з 25 сакавіка 1924 г. выдачу у зварот памяненых у арт. 1 савецкіх грошаў з скарбніцаў народнага камісарыяту грашовых справаў і дзяржаўнага банку.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Кремль.

Агалошана у № 58 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 9 сакавіка 1924 г.

---

## 89. Аб парадку заявы прэтэнзіяў наконт даўгоў галоўнага выставачнага камітэту I Сельска-Гаспадарчае і Кустарна-Прамысловае выстаўкі Саюзу ССР.

**1.** Усе прэтэнзіі да галоўнага выставачнага камітэту і Сельска-Гаспадарчае і Кустарна-Прамысловае выстаўкі Саюзу ССР, вынікаючыя з узаемаадносінаў паміж галоўным выставачным камітэтам і яго контрагэнтамі, паўстаўшых да 1 кастрычніка 1923 г. павінны

быць паданы у ліквідацыйную камісію народнага камісарыяту земляробства РСФСР па справам галоўнага выставачнага камітэту не пазьней 10 красавіка 1924 г.

**2.** У заявах павінны быць абазначаны дакладныя сумы прэтэнзіі і іх падставы.

**3.** Усе прэтэнзіі, не паданыя паказаным у арт. 1 і 2 парадкам касуюцца.

**4.** Падача патрэбаваньняў праз суд або адміністратыўным парадкам водлуг заяўленых у ліквідацыйную камісію прэтэнзіяў дазваляецца толькі пасьля 1 красавіка 1924 г. калі да гэтага часу ня выдзе водлуг іх здавальненьня.

**5.** Заявы прэтэнзіі ў камісію ў парадку гэтае пастановы не перарываюць ходу вызначаных тэрмінаў даўнасьці.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

10 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 70 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 сакавіка 1924 г.

## 90. Аб з'іначаньні арт. 3 палажэньня аб цэнтральным камітэце наконт перавозак.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Выкласьці арт. 3 палажэньня аб цэнтральным камітэце наконт перавозак (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 79, арт. 985: Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 238) у наступнай рэдакцыі:

„Арт. **3.** У склад цэнтральнага камітэту наконт перавозак, апрача старшыні камітэту, ўваходзяць:

а) начальнік цэнтральнага упраўленьня чыгуначнага транспарту;

б) два прадстаўніні вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР;

в) па аднаму прадстаўніку ад народнага камісарыяту замежнага гандлю, народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам і усерасійскага цэнтральнага саюзу спажывецкіх таварыстваў.

Да разгляданьня пытаньняў, датычных ведамстваў, ня маючых прадстаўніка у камітэце, запрашаюцца адпаведныя прадстаўнікі належных ведамстваў, прычым ведамствы маюць права апратэставаньня вырашэньня камітэту у Савет Працы і Абароны.

Увага. Да сябраў камітэту назначаюцца сталыя намесьнікі“.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

11 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 91. Аб дачы бюро замежнай навукі і тэхнікі (БЗНТ) вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР у Бэрліне правоў бязмытнага прывозу у межы Саюзу ССР сваіх пэрыядычных выданьняў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Даць бюро замежнай навукі і тэхнікі (БЗНТ) вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР права бязмытнага прывозу у межы Саюзу ССР пэрыядычных выданьняў, выдаваемых памянёным бюро за-кардонам, на падставе ўвагі да арт. 3 пастановы СНК РСФСР ад 22 лістападу 1922 г. аб забароне дзяржаўным установам і прадпрыёмствам выдаваць неабходную ім літэратуру за кардонам (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 78, арт. 976).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

11 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

## 92. Аб парадку выпуску плацяжных абавязацельстваў цэнтральнай скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

Дзеля з'іначаньня дэкрэту СНК РСФСР ад 7 лютага 1923 г. аб выпуску у зварот плацяжных абавязацельстваў цэнтральнай скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 11, арт. 142) і пастановы Савету Працы і Абароны ад 26 ліпеня 1923 г., Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР з мэтаю авансіраваньня разьлічэньняў па абавязацельствам дзяржавы выпушчаць у зварот плацяжныя абавязацельствы цэнтральнай скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, пачынаючы з 1 красавіка 1924 г., на наступных падставах.

**2.** Абавязацельствы выпушчаюцца на агульную суму, вызначаемую Саветам Працы і Абароны у зацьверджаемых ім месячных бюджэтных планах.

**3.** Абавязацельствы выпушчаюцца вартасьцю у 100, 250, 500 і 1000 р. золатам пад назваю „плацяжныя абавязацельствы цэнтральнай скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік“.

**4.** Абавязацельствы выпушчаюцца на трохмесячныя тэрміны. Пасьля наступленьня тэрміну пагашэньня абавязацельстваў народны камісарыят грашовых справаў робіць іх аплату грашамі водлуг падачы абавязацельстваў у цэнтральную скарбніцу народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, а так сама у касы органаў грашовых справаў, на якія будзе ускладзен, загадам народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР адпаведны абавязак.

**5.** Па абавязацельствам налічаюцца проценты велічынею у 6% (шасьці) гадавых з дня выпуску абавязательства па дзень іх аплаты.

**6.** Абавязацельствы прымаюцца народным камісарыятам грашовых справаў да аплаты у працягу аднаго году з моманту наступленьня тэрміну іх аплаты.

**7.** Абавязацельствы прымаюцца у заклад па дзяржаўным падрадам і дастаўкам.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкретар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

15 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 63 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 сакавіка 1924 г.

**93. Аб звальненьні таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі ад падаткаў і збораў.**

Заслухаўшы зьвертаньне праўленьня таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Зволіць таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі якіх бы ня было падаткаў і збораў, якія патрабуюцца рознымі дзяржаўнымі установамі і органамі на абшары Саюзу ССР.

**2.** Зволіць усіх грамадзян Саюзу ССР ад выплаты ўсякіх гэрбавых, натарыяльных, канцэлярскіх і іншых збораў, зьвязаных з афармленьнем дакумэнтаў, актаў і іншых данных, накірованых таварыству дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі ці органам апошняга.

**3.** Дазволіць безграшовую перасылку поштай ўсялякай карэспадэнцыі, адрэсуемай грамадзянамі Саюзу ССР —таварыству дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі ці арганам апошняга.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цюрупа.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюза ССР* **Л. Фоціева.**

21 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 70 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 сакавіка 192Р г.

**94. Аб працягу тэрміну прыняцьця ў плацяжы і да замены на цьвярдую валюту грашовых знакаў ўзору 1923 году.**

Прымаючы пад увагу, з'явіўшыйся ў звароце недахват ў разьменых знаках, а так сама нявыстарчаючую сьвядомасьць насельніцтва Саюзу ССР аб тэрмінах спыненьня прыёму ў плацяжы і замене на цьвярдую валюту грашовых знакаў ўзору 1923 году, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, аб з'іначаньнем пастановы сваей ад 7 сакавіка 1924 г. аб парадку выкупу савецкіх грашовых знакаў вартасьць якіх не азначана ў цьвярдой (Весьнік валюце ЦВК, СНК, СПА, 1924 г.№ 4) **пастанаўляе:**

**1.** Працягнуць тэрмін звароту грашовых знакаў ўзору 1923 году, як закон плацяжных сродкай на адзін месяц—да 10 траўня 1924 г., уключна.

**2.** Тэрмін прыёму грашовых знакаў ўзору 1923 г. ў плацяжы скарбніцамі (касамі) Народнага камісарыяту грашовых справаў і дзяржаўнага банку і замене іх паказанымі скарбніцамі на цьвёрдую валюту на ўсім абшары Саюзу ССР працягнуць да 31 траўня 1924 г. выключна, а на абшары Якуцкай савецкай соцыялістычнай рэспублікі па 3 червеня 1924 г.

**3.** Выпуск у зварот са скарбніцаў народнага камісарыяту грашовых справаў і дзяржаўнага банку грашовых знакаў ўзору 1923 г., паступаючых ў гэтых скарбніцы ад насельніцтва спыніць ад 25 красавіка 1924 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цюрупа.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

22 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 68 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 23 сакавіка 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Працы і Абароны
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**95. Аб льготным чыгуначным тарыфу для дабрадзейных грузаў, пасылаемых з-заграніцы на адрас камісіі замежнай дапамогі пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР і замежных дабрадзейных арганізацыяў дапамогі.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Азначыць на тэрмін да 31 сьнежня 1924 г. выключна 50% скідку з агульнага тарыфу для перавазімых па чыгуначных шляхах align="" рознага віду дабрадзейныя грузы, пасылаемыя з-заграніцы на адрас камісіі замежнай дапамогі пры Презыдууме ЦВК Саюзу ССР і замежных добрадзейных арганізацыях дапамогі.

**2.** Паказаны у арт. 1 льготный тарыф з'дзейсьніваецца па пасьведчаньнях камісіі заменжай дапамогі пры прэзыдууме ЦВК Саюзу ССР.

*Старшыня СПА Союза ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

12 лютага 1924 г. Масква—крэмль.

Агалошана у № 66 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 24 сакавіка 1924 г.

**96. Аб кроках да расшырэньня збыту данецкага вугля.**

Прымаючы пад увагу, што крызіс збыту данецкага вугля пагражае падарваць дасягнутыя з вялікім напружаньнем дзяржаўных сіл і сродкаў вытворчыя пасьпехі данецкага каменявугольнага басэйну і што далейшае падтрыманьне і паглыбеньне гэтых дасягненьняў магчыма толькі пры самай актыўнай дапамоге ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх арганізацыяў ў справе распаўсюджаньня і збыту данецкага апалу на транспарце прамыславасьці і сярод насельніцтва — Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Прапанаваць ўсім ведамствам, патрэбляючым апал, скараціць да мінімальных граніц паленьне дроў, а так сама у некаторых выпадках нефці, з адпаведнай заменай іх данецкім вуглям.

**2.** Абавязаць вышэйшы савет народнай гаспадаркі Саюзу ССР прыняць сьпешныя меры да расшырэньня карыстаньня данецкім вуглям за лік іншых відаў апалу падведамстнымі яму прамысловымі прадпрыемствамі.

**3.** Абавязаць народны камісарыят шляхаў зносін, разам з вышшым саветам народнай гаспадаркі Саюзу ССР, пераглядзець праграму апаласнабжэньня

транспарту у бок максімальнага павялічэньня карыстаньня данецкім вуглям за лік іншых відаў апалу.

**4.** Прапанаваць эканамічным нарадам саюзных рэспублік прыняць рашучыя крокі да расшырэньня сбыту данецкага апалу на абшары памянёных рэспублік.

**5.** Даручыць вышшаму савету народнай гаспадаркі Саюзу ССР, сачыць за выконаньнем гэтай пастановы якому даручаецца кожныя два тыдні пасылаць даклады на паперы ў Савет Працы і Абароны паказаўшы як праходзіць выпаўненьне гэтай пастановы, гэтак і аб дасягнятых ўжо выніках.

**6.** Гэта пастанова належыць шырокаму агалошаньню ва ўсіх савецкіх і прафесіянальных органах друку.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
12 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 49 „Известий ЦВК Саюзу ССР ад 28 лютага 1924 г.

---

## 97. Аб з'начаньні арт. 1 інструкцыі аб парадку рэгістрацыі гандлёвых кніжак гандлёвымі і прамысловымі прадпрыёмствамі, павіннымі весьці рахункаводства па сыстэме падвойнай бугальтэрыі.

З'іначаньнем інструкцыі ад 28 сьнежня 1923 г. аб парадку рэгістраваньня гандлёвых кніжак гандлёвымі і прамысловымі прадпрыёмствамі, павіннымі весьці рахункаводства на сыстэме падвойчай бугальтэрыі (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г. № 12 ст. 350), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**
Злажыцьё арт. 1 памяннай інструкцыі ў наступнай рэдакцыі:

Гандлёвыя прадпрыёмствы V разраду і прамысловыя ня ніжэй VI разрада павінны даставіць кніжкі „Глаўную“ і „Рэскантро дэбітораў і крэдытораў“ для рэгістраваньня да іх адчыненьня.

*Старшыня СПА Союзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

19 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.
Агалошана у № 48 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 27 лютага 1924 г.

---

## 98. Аб рэгуляваньні розьнічных цэнаў на газу ў Маскве, Ленінградзе, Харкаве, Растове-на-Дану і Екацерынбургу.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**
Даручыць камісіі па унутраным гандлю пры СПА і яе органам на мясцох распачаць, на грунце дадаваемай інструкцыі да рэгуляваньня розьнічных цэнаў на газу у Маскве, Ленінградзе, Харкаве, Растове-на-Дану і ў Екацерынбургу пры прадажы яе дзяржаўным с органамі і іх адзяленьнямі, коаперацыяй і акцыанэрнымі таварыствамі з удзелам дзяржаўнага капіталу.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
19 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

---

Дадаток 1.

### ІНСТРУКЦЫЯ.

**па рэгуляваньню розьнічных цэнаў на газу ў Маскве, Ленінградзе, Харкаве, Растове-на-Дану і Екацерынбургу.**

**1.** Камісія па унутраным гандлю пры СПА выпрацоўвае гранічныя аптовыя цэны нефцесандзікату, абязковыя пры прадажы газы са складаў партыямі звышэй 50 пудоў.

**2.** Прадаваўшы газу меньш 50 пудоў, але ня меньш 5 пудоў, на складацкую аптовую цану робіцца накідка ў 5%.

**3.** Органамі, якія рэгуліруюць розьнічныя цэны на газу згодна інструкцыяў камісіі па унутраным гандлю, зьяўляюцца мясцовыя выканаўчыя камітэты.

Увага. Мясцовыя выканаўчыя камітэты ня маюць права зьмяняць зацьверджаныя камісіяй па унутраным гандлю пры СПА цаны на газу на складах сандзікату.

**4.** Паміж першастковымі коаперацыйнымі арганізацыямі, а так сама дзяржаўнымі органамі вядучым розьнічны гандаль газай, з аднаго боку, і таварнымі складамі нефцесандзікату, з другога боку, дапушчаецца толькі адна паміжлежная ступень (у асобе райсаюзу, губсаюзу, ці госоргану) пры чым пытаньне аб мэтазгоднасьці дапушчэньня гэтай паміжлежнай інстанцыі дазваляецца мясцовымі выкапаўчымі камітэтамі.

**5.** У выпадку, калі АПТ (адзінае спажывецкае таварыства) атрымоўваюць газу не са складаў нефцесандзікату, са складаў губсаюзу ці райсаюзу і г. д. атпускная цана апошніх не павінна правышаць гранічнай агульнай (аптовай) цаны нефцесандзікату на бліжэйшым складзе з надбаўкай у 3%, калі адпушчаюць з складу і наліваюць з рэзэрвуару, і 5% калі адпушчаюць з складу, ў якім газу трымаюць у бочках.

**6.** Пры вылічэньні крайняй розьнічнай цаны мясцовыя выканаўчыя камітэты бяруць у грунтоўнасьць крайнюю аптовую цану, паказаную у арт. 2 гэтай інструкцыі.

Увага. У выключных выпадках по мясцовым умовам дазваляецца браць у грунтоўнасьць азначэньні цану паказаную ў арт. арт. 2 і 5 гэтай інструкцыі.

**7.** Пры устанаўленьні розьнічных цэнай, мясцовыя рэгуліруючыя органы кіруюцца даваемай арыенціровачнай схемай (дадатак 2) маючай разлік, складзены прыстасаваўшы да ўмоваў г. Масквы.

У залежнасьці ад мясцовых умоваў дапушчаецца зьмена як асобных элементаў гэтай арыенціраванай калькуляцыі, так і размеру процанта гранічнай накідкі на аптовыя цэны, у бок як паніжэньня так і павышэньня, ў апошнім выпадку ўсе ж ня больш, як на 5%, ці інакш гранічная розьнічная накідка не павінна перавышаць 35%.

**8.** Усе цэны якія зацьверджаецца як камісіямі па ўнутраным гандлю пры Савеце Працы і Абароны, гэтак і мясцовымі выканаўчымі камітэтамі зьяўляюцца толькі крайнімі. Перавышэньня гэтых цэнаў караецца у карачынным парядку. Прадажа па цэнам ніжэй крайніх дазваляецца і ухваляецца.

**9.** Апрацаваныя і зацьверджаныя па гэтай інструкцыі гранічныя цэны абявязковы для коаперацыйных арганізацыяў усіх ўсходаў (ступеняў) і відаў для усіх дзяржаўных прамысловых і гандлёвых органаў і аддзяленьняў і для акцыянэрных таварыстваў з удзелам дзяржаўнага капіталу.

**10.** Усе коаперацыйныя і дзяржаўныя арганізацыі, маючыя розьнічны гандаль таварамі шырокага патраблеьня адпаведнага асартымэнту павінны гандляваць ў сваіх крамах газаю.

Увага. Звальненьне ад гандлю газаю можа быць дазволена толькі ў выпадках недазволу вытворчацьці гэтага гандлю мясцовымі адміністрацыйнымі аддзеламі па разважаньнях пажарнага і санітарнага свойства, а гэтак сама асабістамі пастановамі мясцовых выканакамаў.

**11.** Мясцовыя выканаўчыя камітэты павінны сачыць кантраліраваць, як выконваецца гэта інструкцыя.

Дадатак 2.

### АРЫЕНТЫРОВАЧНАЯ СХЕМА.

**вылічэньня разнічнай накідкі на оптавыя цэны.**

| | Нефцесандзікат. | Другія дзяржорганы і коаперацыі. |
|---|---|---|
| Страта на курсе | 2,5% | 2,5% |
| Прыбытак | 4% | 4% |
| Уцечка пры перавозцы | 1% | 5% |
| „ „ разліве | 1% | 1% |
| Падвозка | 7% | 7% |
| Зарабковая плата | 12% | 8% |
| Сутрыманьне памяшканьня | | |
| Амарцызацыя кары | 1% | 1% |
| Падаткі | 1,5% | 2,5% |
| | 30% | 30% |

## 99. Аб цэнах на плаціну і спадорожнікаў плаціны якія аддаюцца органамі народнага камісарыяту грашовых справаў.

На грунце арт. 2 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпня 1923 г. аб дзяржаўнай манаполіі на плаціну (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г. № 4, арт. 80), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Зацьвердзіць ніжэйпаказаныя цэны на шліховую і губчатую плаціну, якія аддаюцца народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР і паўнамоцным ім органам:

1 залатнік шліховай плаціны—12 руб. у чыр. выл.

1 залатнік губчатай плаціны—15 руб. у чыр. выл.

**2.** Для асьмістага ірыдзя (спадарожніх плаціны) зацьвердзіць прыёмачную цану у ліку $22^1/_2$ руб. ў чырвоным вылічэньні за залатнік, а для ўсіх іншых спадарожнікаў плаціны цану, устаноўленую для самой плаціны.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 48 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад лютага 1924 г.

---

## 100. Аб адцягненьні тэрміну падачы вестак аб судах марскога гандлёвага флёту.

З прычыны немагчымасьці падачы ўзімку вестак аб судах марскога гандлёвага флёту, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР, з'іначаньнем арт. 1 пастановы сваёй ад 27 кастрычніка 1923 г. аб учоце судаў марскога гандлёвага флёту (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8 арт. 225) **пастанаўляе:**

Працягнуць тэрмін падачы вестак аб судах Марскога гандлёвага флёту да 1 ліпеня 1924 г.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 лютага 1924 г. Масква—Кремль.

Агалошана у № 48 „Извести“ ЦВК Саюзу ССР ад 27 лютага 1924 г.

---

## 101. Аб парадку устанаўленьня крайніх цэнаў на тавары.

На падставе п „г“ арт. 4 пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 28 жніўня 1923 г. аб утварэньні камісіі па ўнутранаму гандлю пры СПА, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Права камісіі па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны рэгуляваць таварныя цэны пашыраецца на ўсе тавары, якія зьвяртаюцца на ўнутраным рынку Саюзу ССР ува ўсіх стадыях іх гандлёвага звароту, дзеля чаго камісіі па ўнутранаму гандлю пры СПА падаецца ўстанаўляць:

а) крайнія цэны для аптовае, аптова-розьнічнае і розьнічнае продажы і набыцьця тавараў і дазволеныя ад іх адхіленьні, скідкі і накідкі;

б) сьпісы тавараў, продаж ці набыцьцё якіх водлуг цэнаў вышэй ці ніжэй крайніх не дазваляецца.

**2.** Пастановы камісіі па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны па ўстанаўленьню крайніх цэнаў на тавары агалашаюцца для агульнага ведаму ў „Известиях“ ЦВК Саюзу ССР і „Эканамічным Жыцьці“ і набываюць моц ада дня агалашэньня, калі ў самай пастанове не прадгледжаны іншы момант набыцьця імі моцы або калі яны ня зьвернуты ў выкананьне па тэлеграфу.

**3.** Пастановы камісіі па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны па ўстанаўленьню крайніх цэнаў на тавары абавязковы да выкананьня для ўсіх тых дзяржаўных установаў і прадпрыёмстваў, грамадзянскіх арганізацыяў і прыватных аб'яднаньняў і асобаў, да якіх яны датычаць.

Парушэньне гэтых пастановаў караецца водлуг адпаведных артыкулаў карачынных кодэксаў саюзных рэспублік.

**4.** Права ўзьняцьця ў Савеце Працы і Абароны Саюзу ССР пытаньняў аб скасаваньні або спыненьні пастановаў камісіі па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны пасьля ўстанаўленьня крайніх цэнаў на тавары належыць народным камісарыятам Саюзу ССР і эканамічным нарадам саюзных рэспублік. Адпаведныя паданьні народных камісарыятаў Саюзу ССР

і эканамічных нарадаў саюзных рэспублік не спыняюць дзейнасьці адбыўшыхся пастановаў камісіі па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны.

**5.** Усе дзяржаўныя, коопэрацыйныя і прыватныя установы і прадпрыёмствы павінны падаваць у камісію ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны, водлуг запатрабаваньня апошняй, справочныя цэны і ўсе матар'ялы, патрэбныя для выпаўненьня даручаных камісіі ўнутранага гандлю абавязкаў па рэгуляваньню цэн.

**6.** На камісію ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны ўскладаецца агульнае кіраўніцтва і нагляд за выкананьнем яе пастановаў па рэгуляваньню цэн.

**7.** Нагляд за выкананьнем на мясцох пастановаў камісіі ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны па рэгуляваньню цэн ускладаецца на камісіі ўнутранага гандлю саюзных рэспублік і мясцовыя выканаўчыя камітэты.

**8.** Камісіі ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны падаецца права ўпоўнаважваць камісіі ўнутранага гандлю саюзных рэспублік і мясцовыя выканаўчыя камітэты на ўнясеньне ў паказаныя камісіяй ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны межах з'іначаньняў у вызначаныя ёй крайнія цэны, ў замежнасьці ад мясцовых умоваў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

22 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 54 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 5 сакавіка 1924 г.

---

## 102. Аб другім выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы на суму 30 мільёнаў залатых рублёў.

З прычыны патрэбы приступіць у працягу сакавіка 1924 г. да замены савецкіх грашовых знакаў у звароце білетамі дзяржаўнае скарбніцы і сярэбранай манетай, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР, на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску білетаў дзяржаўнае Скарбніцы (Веськік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 2 арт. 28) і ў дадатак пастановы СПА Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы на суму 20.000.000 залатых рублёў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 1), **пастанаўляе:**

**1.** Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР другі выпуск білетаў дзяржаўнае скарбніцы на суму 30 мільёнаў залатых рублёў, уключаючы ў гэту суму, згодна арт. 4 дэкрэту ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 22 лютага 1924 г. аб чэканцы і выпуску ў зварот сярэбранай і медзянай манеты савецкага ўзору, так сама і выпуск памянёнай манеты.

**2.** Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў выпусьціць на суму ў 3 мільёна залатых рублёў прадгледжаньня арт. 5 дэкрэту ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 22 лютага 1924 г. часовыя боны вартасьцю ў 1, 2, 3, 5 і 50 кап. з залікам іх выпуску ў памянёную арт. 1 гэтае пастановы агульную суму другога выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

Агалошана у № 48 „Известий" ЦВК Саюзу ССР.

---

## 103. Аб забароне выпуску грашовых сурагатаў.

У разьвіцьцё пастановы СНК РСФСР ад 13 кастрычніку 1922 г., зацьверджанай Усерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам 23 лістападу 1922 г. С пашырэньнем яго на ўсе саюзныя рэспублікі (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г. № 65 арт. 841 і № 79 арт. 989), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР пастанаўляюць:

Бязумоўна забараняецца ўсім дзяржаўным, коопэрацыйным і прыватным арганізацыям, прадпрыёмствам і асобам выпуск, без асабістага на гэта дазволу народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, якіх бы там ні было грашовых сурагатаў, а менавіта: плацяжных ордэроў на прад'яўніка, прад'яўніцкіх грашовых квіткоў на тавары і г. д.

Органам народнага камісарыяту грашовых справаў падаецца права утвараць неадкладнае апячатваньне скарбніц арганізацыяў і прадпрыёмстваў, якія парушылі б паказаную пастанову, і зьвяртацца у адпаведныя органы з прапазыцыяй аб ліквідаваньні памянёных арганізацыяў і прадпрыёмстваў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 52 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 сакавіка 1924 г.

---

## 104. Аб зьніжэньні розьнічных цэн.

Да ўводу ў зварот цьвярдой валюты гандлёвыя прадпрыёмствы, дзеля пазбыцьця стратаў ад абяцэненьня Савецкіх грашовых знакаў, вартасьць якіх ня вызначана ў цьвярдой валюце, ўзвышалі цэны на тавары, адпушчаемыя спажыўцу, перакладаючы на яго ў весь ценжар страты на курсе памянёных грашовых знакаў.

Гэтыя надбаўкі на цэны, пачынаючыся ад буйнай оптавай прадажы, асабліва нарасталі ў дробным розьнічным гандлю, дасягаючы вялізманных разьмераў у гандлёвых прадпрыёмствах, знаходзячыхся вонках гарадоў, вонках мейсц знаходжаньня скарбніц дзяржаўнага банку і народнага камісарыяту грашовых справаў.

З праводжаньнем грашовае рэформы, з пераходам на цьвярдую валюту і па вылічэньне цэн у рублёх і капейках (золатам і серабром) гэтым страхавым надбаўкам на рынчаныя цэны павінен быць паложаны канец.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Абавязаць мясцовыя камісіі ўнутранага гандлю неадкладна разпрацаваць, сумежна з прадстаўнікамі дзяржаўнага і коопэрацыйнага гандлю, і падаць на зацьверджаньне губэрскіх (краіных) выканаўчых ка-

мітэтаў проэкты абавязковых пастановаў аб зьніжэньні ўсіх розьнічных цэн на тавары, якія прадаюцца дзяржаўнымі (ў тым ліку і комунальнымі) і коопэрацыйнымі крамамі, на процант, адпавядаючы разьмеру памянёных страхавых надбавак да розьнічных цэнаў.

**2.** Абавязаць губэрскія (краінныя) выканаўчыя камітэты разгледзіць і выдаць памянёныя ў арт. 1 абавязковыя пастановы к моманту фактычнага пераходу гандлёвага звароту на цьвярдыя грошы і ва ўсякім разе зараз пасьля абвяшчэньня ўрадам выкупнога курсу савецкіх грашовых знакаў, вартасьць якіх ня вызначана ў цьвярдой валюце.

**3.** Абавязаць камісію Савету Працы і Абароны па ўнутранаму гандлю ў двухтыднёвы тэрмін падаць на мейсцы па тэлеграфу кірункі па ажыцьцяўленьню гэтае пастановы.

**4.** Гэту пастанову зараз жа ўвесьці ў дзейнасьць на радыё.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 51 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 1 сакавіка 1924 г.

## 105. Аб публікацыі розьнічных цэн.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Абавязаць ўсе дзяржаўныя (ў тым ліку і комунальныя), коопэрацыйныя і прыватныя прадпрыёмствы, якія вядуць розьнічны гандаль, ада дня агалашэньня гэтае пастановы, вывешаваць на відным мейсцы у сваіх гандлёвых памяшканьнях цэны ў рублёх і капейках (золатам і серабрам) на тыя з прадаваемых імі тавараў, якія значацца ў асабістых сьпісах, устанаўляемых губэрскімі (краіннымі) выканаўчымі камітэтамі і губэрскімі (краіннымі) камісіямі ўнутранага гандлю, згодна кірункаў камісіі ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны.

**2.** Абавязаць ўсе губэрскія (краінныя) выканаўчыя камітэты распрацаваць і вызначыць парадак зьмяшчэньня ў мясцовай кругабежнай прэсе ня менш двух разоў на месяц абвестак аб прадажных цэнах на памянёныя арт. 1 тавары, якія прадаюцца ў дзяржаўных (ў тым ліку і комунальных) і коопэрацыйных прадпрыёмствах.

**3.** Камісіі ўнутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны трымаць няўхільны нагляд за выкананьнем гэтае пастановы.

**4.** Гэтую пастанову ажыцьцявіць па радыё.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква — Крэмль.

Агалошана у № 51 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 1 сакавіка 1924 г.

## 106. Аб пад'яздных чыгунках не агульнага карыстаньня, якія знаходзяцца ва ўласнасьці дзяржавы.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Шырокакалейныя і вузкакалейныя пад'яздныя шляхі, якія знаходзяцца ва ўласнасьці дзяржавы і зьвязаны непарарыўнай рэльсавай каляёй з чыгункамі агульнага карыстаньня, разам з занятай пад гэткія шляхі зямлёй, знаходзяцца, за выняткамі, паказанымі ў наступных артыкулах, у веданьні народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**2.** З пад'яздных шляхаў, паказаных у арт. 1, пад'яздныя шляхі як шырокай, так і вузкай калі, абслугоўваючыя дзяржаўныя прадпрыёмствы і пабудаваныя коштам прадпрыёмстваў, у выпадку вымаганьня апошніх, перадаюцца ім дарма з занятай пад пад'яздныя шляхі зямлёй і з усёй датычнай да іх чыгуначнаю маемасьцю і прыладамі ў поўнае гаспадарчае веданьне і загад з занясеньнем перадаваемага ў аснаўны капітал адпаведнага прадпрыемства.

Увага 1. Металічная верхняя пабудова, падапая народным камісарыятам шляхаў зносін пасьля 1 лютага 1922 г. перадаваемаму пад'язному шляху, можа ўключацца ў аснаўны капітал дзяржаўных прадпрыёмстваў толькі пры ўмовах аплаты апошнім яго вартасьці народнаму камісарыяту шляхаў зносін. У іншым выпадку, гэта верхняя пабудова, застаючыся за народным камісарыятам шляхаў зносін, падаецца дзяржаўнаму прадпрыёмству ў карыстаньне на ўмовавых падставах.

Увага 2. Калі дзяржаўныя прадпрыёмствы на працягу 3 месяцаў ада дня гэтае пастановы не заявяць патрабаваньняў аб перадачы пад'яздных шляхаў, пабудаваных да выданьня гэтае пастановы, апошнія застаюцца ў веданьні народнага камісарыяту шляхаў зносін. Перадача павінна быць утворана не пазьней 2 месяцаў ада дня паступленьня ў народны камісарыят шляхаў зносін вымаганьняў аб перадачы.

**3.** Пад'яздныя шляхі як шырокай, так і вузкай калі, абслугоўваючыя дзяржаўныя прадпрыёмствы, пабудаваныя коштам ведамству шляхаў зносін перадаюцца ў карыстаньне дзяржаўных прадпрыёмстваў водлуг ўмовы.

**4.** Умовы абслугоўваньня перадаваемых у парадку артыкулаў 2 і 3 гэтае пастановы пад'яздных шляхаў устанаўляюцца ўмоваю, ў якой вызначаюцца абавязкі чыгункі і прадпрыёмства па ўтрыманьню, рамонту і эксплёатацыі шляху, а так сама разьмер унасімых прадпрыёмствам плацяжоў за карыстаньне зямлёй у межах паласы адчужджэньня чыгункі прымыканьня, у дзьмяшчэньне адміністрацыйных і арганізацыйных выдаткаў па найму дадатковага тэхнічнага пэрсоналу і г. д.

Галоўныя падставы для складаньня ўмоваў належаць устанаўленьню народным камісарыятам шляхаў зносін, водлуг згоды з зацікаўленымі ведамствамі.

**5.** Для безпасрэднага загадваньня пад'язным шляхам дзяржаўнае прадпрыемства назначае асобу з належнай тэхнічнай падрыхтоўкай і стажам, якая зацьвярджаецца адпаведным ведамствам са згоды народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**6.** Над пад'язнымі шляхамі не агульнага карыстаньня, зьвязанымі безперарыўнаю рэльсаваю каляёю з чыгункамі агульнага карыстаньня і перададзенымі дзяржаўным прадпрыёмствам, народны камісарыят шляхаў зносін захоўвае інспэктарскі тэхнічны нагляд.

можа устанаўляць палегчаныя тэхнічныя умовы ўтрыманьня і эксплёатацыі памянёных пад'ездных шляхаў.

**7.** Пад'ездныя шляхі не агульнага карыстаньня і ў агульна дзяржаўных інтэрэсах, а так сама ў выпадку патрэбы налажэньня прымыканьня да пад'язднога шляху, могуць зьвяртацца народным камісарыятам шляхаў зносін, водлуг згоды з зацікаўленымі ведамствамі цалкам або часткаю, ў шляхі агульнага карыстаньня. Пры рознагалосьсі народны камісарыят шляхаў зносін падае пытаньне праз дзяржаўную агульнапляновую камісію на вырашэньне Савету Працы і Абароны.

**8.** У адносінах апала лесавозных чыгуначных пад'яздных шляхаў захоўвае моц пастанова СПА ад 8 жніўня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г. № 4, арт. 110).

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

## 107. Аб спыненьні вылічэньня плацяжоў па абязательствах і ўстанаўленьне тарыфаў і таксаў у таварных рублёх.

Дзеля пераходу на цьвярдую валюту, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе.**

**1.** Забараніць пасьля 1 сакавіка 1924 г. заключэньне умоваў, выдачу абязацельстваў і г. д., а так сама устанаўленьне тарыфаў і таксаў з вылічэньнем плацяжоў водлуг лічбаў-паказчыкам сярэдніх таварных цэн (ў „таварных рублёх").

**2.** Умовы і ўсякія абязательствы, якія будуць пасьля 1 сакавіка 1924 г. утвораны з вылічэньнем у таварных рублёх, ня маюць моцы.

**3.** Умовы і ўсякія абавязкоўствы, ўтвораныя да 1 сакавіка з вылічэньнем у таварных рублёх, належаць пераводу на залатую валюту не пазьней 31 сакавіка 1924 г.

Увага. Перавод на залатую валюту ўтвараецца для ўсякіх умоваў, водлуг цьвярдога парытэту: 1 р. таварны ровен 1 р. 30 к. золатам Для колектыўных умоваў парадак пераводу на залатую валюту ўстанаўляецца асобаю пастановаю Савету Працы і Абароны.

**4.** Гэту пастанову ажыцьцявіць па радыё.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Аглошана у № 51 „Известий" ЦВК Союза ССР ад 1 сакавіка 1924 г.

## 108. Аб пераводзе заробачнай платы на залатую валюту.

Дзеля пераходу на цьвярдую валюту і страты савецкімі грашовымі знакамі годнасьці для вымеру цэн, у інтарэсах ухіленьня курсавых стратаў для рабочых і зліквідаваньня самаходных разлікаў у чырвоным вылічэньні пры фактычнай выплаце ў савецкіх грашовых знаках, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе.**

**1.** Выплата заробачнай платы ад 1 сакавіка 1924 г. утвараюцца, водлуг арт. арт. 2, 3 і 4 гэтае пастановы, без пераводу ставак, установленых колектыўнымі ўмовамі, на савецкія грашовыя знакі. Гэта з'іначаньне спосабу вылічэньня заробачнай платы не павінна выклікаць сабою зьніжэньне рэальнага ўзроўня заробачнай платы, устаноўленага колектыўнымі ўмовамі.

**2.** Ува ўсіх тых выпадках, калі заробачная плата установлена колектыўнымі умовамі ў „таварных рублёх", яна выплачваецца ад 1 сакавіка 1924 г. па цьвярдому парытэту, які ўстанаўляецца асобна для 1 поясу (сталіцы і буйнейшыя прамысловыя асяродкі), для 2-га поясу (раёны сярэдняга ўзроўня цэн) і для 3-га поясу (раёны нізкага ўзроўня цэн). На 15 сакавіка 1924 г. належыць вызначэньню мясцовая вартасьць бюджэтнага набору дзяржаўнай агульнаплянавай камісіі ў цьвярдой валюце (ў серабре і білетах дзяржаўнае скарбніцы), пасьля чаго ў другой палове сакавіка даплачваецца, ў якасьці процантнай прыбаўкі на дарагоўлю, на кожны выплачаны ў пачатку сакавіка рубель—розьніца між прынятым цьвярдым парытэтам і мяйсцовай вартасьцю бюджэтнага набору ў цьвярдой валюце.

Увага. Паказаныя парытэты і паяснае расьпісаньне належаць зацьвярджаньню Савету Працы і Абароны і аглошаньню Саветам Працы і Абароны не пазьней 4 сакавіка.

**3.** У тых выпадках, калі калектыўнымі ўмовамі разьмер заробачнай платы вызначан у чырвонцах, захоўваюцца тыя стаўкі, якія належалі выплаце за студзень, з дадачаю да іх вызначаных у лютым 1924 г. надбавак.

**4.** Заробачная плата выдаецца цьвярдой валютай. У тых выпадках, калі заробачная плата ня можа быць выплачана поўнасьцю ў цьвярдой валюце, частка заробачнай платы і якая выдаецца савецкімі грашовымі знакамі, ня можа перавышаць 10% выплаты для кожнага атрымоўваючага, пры чым савецкія грашовыя знакі выдаюцца водлуг курсу дня фактычнай выплаты.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

29 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Аглошана у № 51 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 1 сакавіка 1924 г.

## 109. Аб утварэньні цьвярдых парытэтаў пры пераводзе таварных рублёў па калектыўным дагаворам у цьвярдую валюту і пояснага расьпісаньня.

У разьвіцьцё п. 2 пастановы СПА ад 29 лютага аб пераводзе заробачнай платы на залатую валюту, Савет рацы і Абароны **пастанаўляе:**

**1.** Пры пераводзе таварных рублёў па калектыўным агаворам у цьвярдую валюту утварыць для першпатковага разьліку у сакавіку наступныя цьвярдыя паытэты:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ля 1-га паясу | 1 тав. руб. | —1 р. 50 к. | у цьвярдой валюце |
| „ 2-га „ | 1 „ | „ —1 р. 30 к. | „ „ „ |
| „ 3-га „ | 1 „ | „ —1 р. 30 к. | „ „ „ |

2. Утварыць ніжэйнаступнае паясное расьпісаньне.

1-ый пояс. Масква, Ленінград і Ніжні-Ноўгарад з іх губэрніямі і гарады: Тула, Харкаў, Екацерынаслаў і Мурманск.

2-гі пояс. Данецкая губ. Екацерынбург, Бранск, Уладзімір, Івана-Вазнясенск, Кастрама, Цьвер і Разань з іх губэрніямі і гарады: Перм, Астрахань, Казань, Кіеў, Чарапавец, Самара, Менск, Краснадар, Растоў-на-Дану, Грозны, Адэса, Нікалаеў, Саратаў, Баку, Навара-сійск, Сімферопаль, Севастопаль. Петразаводзк, Царыцын, Яраслаўль, Архангельск, Ноўгарад, Пскоў і губэрніі Тульская, Харкаўская, Екацеринаслаўская і Мурманская.

3-ці пояс, рэштка гарадоў і губэрніяў не падведзяных у першыя два паясы.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

1 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 52 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 2 сакавіка 1924 г.

---

## 110. Аб перадачы народным камісарыятам замежнага гандлю у прыбытак казне чыстага прыбытку па замежнаму гандлю.

Дзеля зьмены раней выданых пастаноў аб разьмерах зваротнага фонду народнага камісарыяту замежнага гандлю і у адмену пастановы сваей ад 14 сьнежня 1923 г. Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе**.

1. Утварэньне разьмеру зваротнага фонду, даваемага народнаму камісарыяту замежнага гандлю і яго органам, адлажыць да заканчэньня працы дзяржаўнай агульнаплянавай камісіі па дакладу народнага камісарыяту замежнага гандлю і камісіі, прадглежанай арт. 5 гэтае пастановы.

2. Разьмер адлічэньняў ад чыстага прыбытку дзяржторгаў і іх запасныя капіталы да дасягненьня апошнімі разьмераў, прадгледжаных палажэньнямі аб дзяржторгах, утвараюцца 20%. Разьмер паказанага адлічэньня можа быць павялічан адмысловай пастановай Савету Працы і Абароны.

3. Усе прыбыткі атрымоўвываемыя народным камісарыятам замежнага гандлю у якасьці удзельніка у прыбытках прамысловых і гандлёвых прадпрыёмстваў, поколькі і па мёры таго, як прыбыткі даюцца у загад народнага камісарыяту замежнага гандлю, належыць перадачы казне.

4. Даходы атрымлівымыя народным камісарыятам замежнага гандлю па удзельніцтву у гандлёвых і прамысловых прадпрыёмствах за ўвесь папярэдні час, належыць перадачы казне.

5. Вытворчасьць усіх прадгледжаных гэтай пастановай разьлікаў ускладаецца на камісію па разгледжаньню балянсаў і размяркаваньню прыбытку пры народным камісарыяце прадстаўнікоў народнага камісарыяту замежнага гандлю.

6. Парадак прыстасаваньня гэтае пастановы азначасцца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР па улагоджаньню з народным камісарыятам замежнага гандлю.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар СПА Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

---

## 111. Аб нераспаўсюджаньні пастановы СПА Саюзу ССР ад 29 лютага 1924 г. аб пераводзе заробчай платы на залатую валюту на Закаўказскую Соцыялістычную Фэдэратыйную Савецкую Рэспубліку.

З прычыны асабістых умоваў грашовага звароту у Закаўказскае Соцыялістычнае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Пастанова Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 29 лютага 1924 году аб пераводзе заробчай платы на залатую валюту (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3 ар 108) часова не распаўсюджываць на Закаўказскую Соцыалістычную Рэспубліку.

2. У датычэньні з гэтым у пастанове Савету Працы і Абароны ад 1 сакавіка 1924 году аб цьвярдых парытэтах пераводу заробчай платы на залатую валюту (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 3 ар. 109), выключыць з пералічэньня гарадоў г. Баку.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 сакавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 57 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 8 сакавіка 1924 г.

---

## 112. Аб адтэрмінаваньні пры прызыве на сапраўдную вайсковую службу грамадзян, якія радзіліся у 1902 г.

Савет Працы і Абароны ССР **пастанаўляе:**

1. Пры наступным прызыве на сапраўдную вайскавую службу грамадзян, якія радзіліся у 1902 г. даваць адтэрмінаваньні прызыву—научным працаўнікам, вучашчым, і вучням савецкіх прафэсіанальных, партыйных і інш. учэбных заведзеньняў і навуковых установаў.

2. Даваць адтэрмінаваньні прызыву так сама особам адбываючых абавязковую практыку па сканчэньні учэбнага курсу вышэйшых учэбных установаў, тэхнікумаў і прафэсіянальных тэхнічных школ.

3. Пералічэньні учэбных установаў і навуковых установаў, навуковыя працаўнікі вучашчыя і вучашчыяся якіх карыстаюцца адтэрмінаваньнямі прызыва, а так сама парадак і тэрмін прэдастаўленьня адтэрмінаваньняў, даручаецца утварыць Рэвалюцыйнаму Ваенаму Савету Саюзу ССР па улагоджаньню з належнымі ведамствамі, праз цэнтральную камісію па адтэрмінаваньням адкамандзіраваньням з чырвонае арміі.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкрэтар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

10 сакавіка 1924 г. Масква – Крэмль.

Агалошана у № 61 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 14 сакавіка 1924 г.



Главлит № 19050. Тираж 1.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий“ Издательства „Красная Новь“. Пименовская, 1/16.